19 кастрычніка 2018 | № 38 (601)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ
ISSN 2218-2144

**Як вярнуць расіянам «яць»**
Стар. 9



# Праваслаўная трагедыя

## Ці здольная РПЦ зрабіць тое, да чаго заклікае паству, — пакаяцца?



Сяргей ПУЛЬША

«Святы Сінод Рускай праваслаўнай царквы вырашыў перапыніць еўхарыстычныя зносіны з Канстанцінопальскім патрыярхатам» — такі вынік пасяджэння Святога Сіноду ў Мінску. Прынамсі, так сказаў старшыня аддзела знешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага патрыярхату мітрапаліт Валакаламскі Іларыён.

Менавіта такім чынам РПЦ адрэагавала на намер Усяленскага патрыярха надаць аўтакефалію Украінскай праваслаўнай царкве. Масква не згодная з вывадам з-пад кантролю вялікай часткі «сваёй» паствы.

Што азначае «перапыненне еўхарыстычных зносінаў»? Яно азначае, што святары РПЦ прыпыняюць памінанне патрыярха Канстанцінопальскага ў набажэнствах Рускай праваслаўнай царквы. Вернікам і шараговым святарам не дазваляецца здзяйсняць службы са святарамі Усяленскага патрыярхату і наведваць храмы гэтага Усяленскага патрыярхату.

Сапраўды, гэта азначае раскол праваслаўнай царквы. РПЦ дэманстратыўна і нахабна парушыла 15-е правіла Двухразовага сабору 861 года. Гэтае правіла накіравана супраць раскольнікаў і забараняе спыняць памінанне патрыярха нават у выпадку рэальных кананічных злачынстваў з яго боку — да таго моманту, пакуль ён не будзе асуджаны паўнамоцным саборам епіскапаў. «Калі які-небудзь прэсвітэр або біскуп, або мітрапаліт адважыцца адступіць ад зносін са сваім патрыярхам і не будзе ўзносіць імя яго па вызначаным і ўсталяваным чыне, у Божым таемнадзеянні, але, перш Саборнага абвяшчэння і здзейсненага асуджэння яго, учыніць раскол, — Святы Сабор вызначыў быць зусім чужым усякага святарства», — кажа пастанова Двухразовага сабору.

Варта зазначыць, што гэтая пастанова была прынятая, калі РПЦ (і Масквы ўвогуле) яшчэ і ў праекце не было.

Такім чынам, чальцы Святога Сіноду РПЦ на чале з патрыярхам Кірылам свядома парушылі адзін з асноўных законаў праваслаўя, і ўсе яны павінны быць пазбаўленыя сану і аддадзеныя анафеме як раскольнікі. Фактычна, з гэтага моманту патрыярха Кірыла няма, а ёсць грамадзянін Гундзяеў Уладзімір Дзмітрыевіч, які незаконна носіць патрыяршыя рызы.

Гэта азначае, што ўсе дзеянні ў храмах РПЦ і здзейсненыя іх святарамі, будуць несапраўднымі. Хрышчэнне, адпяванне, святое прычасце — не маюць моцы, бо Святы Дух спускаецца на паству праз святара. А калі святар зрынуты з сану і пракляты як раскольнік?

У найбольш апантаных праваслаўных ужо ўзнікла дылема: дзе маліцца ў Мінску, калі праваслаўных храмаў, апроч РПЦ, амаль няма? Бо, паводле царкоўных законаў, той, хто моліцца з раскольнікам, сам аўтаматычна становіцца раскольнікам.

Беларусам дык увогуле падкінулі загадку. Усясветны патрыярх сярод іншага пастанавіў «адклікаць прававыя абавязацельствы па Саборным Пасланні 1686 года», згодна з якім Кіеўская мітраполія, што знаходзіліся да таго ў складзе Канстанцінопальскага патрыярхату, перадавалася пад кіраванне Маскоўскага патрыярха. Па стане на 1686 год да Кіеўскай мітраполіі адносілася і тэрыторыя цяперашняй Беларусі. Паводле літары закону, і нашы землі лічацца вернутымі ва ўлонне Канстанцінопальскай царквы.



Фота www.ocdn.eu

Але ці будзе так дэ-факта?

Шчыра кажучы, спадара Гундзяева можна зразумець. Нехта падлічыў, што аўтакефалія для Кіева пагражае РПЦ стратай 13 мільярдаў долараў ахвяраванняў штогод. Не кажучы ўжо пра царкоўную маёмасць (якая, паводле ўкраінскіх законаў, належыць дзяржаве) — адна Кіева-Пячорская Лаўра бясцэнная. Такія грошы могуць знесці дах каму заўгодна.

Найбольш разумныя прадстаўнікі праваслаўя ва ўсялякім крызісе бачаць і акно магчымасцяў. Знакаміты дыякан Андрэй Кураеў кажа, што ні адна з памесных праваслаўных цэркваў не падтрымае РПЦ і не перапыніць зносіны з Канстанцінопалем. «Значыць, па логіцы канону, яны таксама павінны быць для нас як адлучаныя, — разважае Кураеў. — Так мы застанёмся ў адзіноце». Каб пазбегнуць поўнай ізаляцыі, РПЦ давядзецца даць новую трактоўку канонаў — аб межах царкоўнай еднасці, дысцыпліны і таму падобным. А паколькі выкруціцца будзе надзвычай цяжка, РПЦ чакае маштабная багаслоўская дыскусія. «А гэта — пачатак рэфармацыі», — кажа Кураеў.

**Менавіта «абаронай адзінаверцаў-праваслаўных» апраўдваліся захопніцкія войны Расійскай імперыі**

Рэфармацыя РПЦ можа даць зусім нечаканыя наступствы. Праваслаўе заўсёды было складнікам расійскіх імперскіх амбіцый. Менавіта «абаронай адзінаверцаў, братоў-праваслаўных» апраўдваліся ўсе захопніцкія войны Расійскай імперыі ад часоў Кацярыны II. Нават уступленне Расіі ў Першую сусветную вайну было абумоўлена не толькі і не столькі Сербіяй, колькі магчымасцю ўсталяваць, нарэшце, кантроль над праваслаўнай Галіцыяй. І зараз праваслаўе адыгрывае вялікую ролю ў расійскай палітыцы.

Ці сапраўды раскол праваслаўя і магчымая рэформа РПЦ паставяць крыж на Расійскай імперыі? Невядома. Але варта ўсвядоміць адно — на нашых вачах робіцца гісторыя. Гісторыя, якой будуць ставіць помнікі, вакол якіх будуць гуляць нашы дзеці. Памацайце яе рукамі!

# ЕГУ яшчэ вернецца ў Беларусь

Аксана КОЛБ

**Рэктар Сяргей Ігнатаў зусім не выключае, што калі-небудзь Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт вернецца ў Беларусь. Пакуль жа ён гарантуе, што ЕГУ застанецца менавіта беларускім, а не проста еўрапейскім універсітэтам.**

Падобна, што пасля шматлікіх праблемаў і скандалаў ЕГУ усё ж паступова выходзіць з крызісу. Прынамсі, падставы для такога меркавання ёсць. Новы рэктар, егіптолаг і былы міністр адукацыі Балгарыі, за 7 месяцаў на пасадзе ўжо шмат зрабіў на гэтым шляху.

Нагадаем, Сяргей Ігнатаў стаў рэктарам ЕГУ у няпросты час. Цэнтр ацэнкі якасці вышэйшай адукацыі Літвы даў адмоўную ацэнку дзейнасці ўніверсітэта ў 2017 годзе. Першая такая інстытуцыйная ацэнка ЕГУ адбылася ў 2014 годзе і таксама мела адмоўны вынік. Згодна з літоўскім законам аб навучанні і навуцы, калі ВНУ двойчы атрымлівае негатыўныя ацэнкі, міністр вырашае пытанне аб адмене дазволу на ажыццяўленне ім адукацыйнай дзейнасці.

31 студзеня на пасяджэнні ўрада Літвы было абмеркавана пытанне пра перспектывы далейшай дзейнасці ЕГУ. Было вырашана, што ЕГУ павінен прадставіць дакументы Міністэрству навукі і адукацыі Літвы.

У жніўні такія дакументы былі прадстаўлены. У тым ліку новыя вучэбныя праграмы. Таксама была зроблена праверка эфектыўнасць выкладчыцкага складу. У выніку Міністэрства навукі і адукацыі Літвы атрымала ажно 2000-старонкавы даклад, выкананы з улікам усіх патрабаванняў літоўскіх уладаў. Да канца лютага ЕГУ павінен атрымаць ліцэнзію, каб пасля акрэдытавацца (ЕГУ быў пазбаўлены акрэдытацыі ў снежні 2017-га).

З прыходам новага рэктара ЕГУ змог адзначыць і навасельле. 3 мая, у Дзень Канстытуцыі Рэчы Паспалітай, ЕГУ пераехаў у новае памяшканне — будынак Аўгусцінскага манастыра ў самым цэнтры Вільні. Нарэшце ўсе факультэты ўніверсітэта сабраліся пад адным дахам. Сяргей Ігнатаў лічыць гэта вельмі важным не толькі таму, што гэта будзе зручна студэнтам і выкладчыкам, а яшчэ і таму, што своеасаблівы гістарычны дух будынка будзе спрыяць стварэнню і ўнікальнага ўніверсітэцкага духу.

У новым навучальным годзе ЕГУ набраў 260 студэнтаў (амаль столькі ж, колькі і ў 2017-м). Каля 95 працэнтаў з іх — грамадзяне Беларусі. Сяргей Ігнатаў спадзяецца павялічыць набор. Ён упэўнены, што, нягледзячы на сённяшнюю запатрабаванасць у IT-спецыялістах і незапатрабаванасць гуманітарыяў, праз 10 гадоў сітуацыя зменіцца. Бо 47 працэнтаў сусветнай эканомікі будзе робатазавана, а значыць, з'явіцца неабходнасць у спецыялістах, якія змогуць зразумець чалавека, аналізаваць і рабіць прагнозы на тое, як будзе развівацца свет.

Ігнатаў абсалютна ўпэўнены, што праз 10 гадоў гуманітарыі будуць патрэбныя свету як хуткая дапамога. Таму ён упэўнены і ў светлай будучыні гуманітарных дысцыплін, і ў добрых перспектывах ЕГУ, тым больш, што прыкладае да гэтага ўсе намаганні.

Застанецца, па словах рэктара, ЕГУ і беларускім. У студэнтаў будзе магчымасць навучання па-беларуску, шматлікія праграмы навучання арыентаваныя на Беларусь, на тое, каб выпускнікі ЕГУ змаглі працаваць у Беларусі, больш за 80 працэнтаў выкладчыкаў ЕГУ з Беларусі. Так што, як запэўніў Ігнатаў, ЕГУ будзе не толькі еўрапейскім, але і беларускім. Больш за тое, рэктар не выключае, што ЕГУ зможа вярнуцца ў Беларусь. Праўда, пры якіх умовах, ён не ўдакладніў.

# Спецслужбы ў Беларусі адыгрываюць большую ролю, чым урад

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Напачатку 1990-х Беларусь па шмат якіх паказчыках апярэджвала суседзяў. Але быў адзін паказчык, па якім мы адставалі: узровень нацыянальнай свядомасці. Прайшло 20 гадоў — і гэты паказчык аказаўся галоўным.**

Журналіст, былы дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання **Сяргей Навумчык** выступіў у сталічнай «Арт-Сядзібе» з распаведам пра тое, як Беларусь здабывала незалежнасць, і прэзентаваў сваю кнігу «Дзевяноста трэці».

Мы сабралі самыя цікавыя цытаты.

### Вінаваты не народ, а эліта

Я не згодны, што беларусы — рабскі народ. Народ, які выходзіць сёння да Курапатаў, 25–30 гадоў таму выходзіў па 50 тысяч чалавек на Чарнобыльскі шлях. Гэта той жа самы народ, таму праблема не ў ім.

Калі мы ў чэрвені 1990 года вылучылі праект Дэкларацыі аб суверэнітэце, да гэтай прапановы паставіліся як да нечага нерэальнага. У той час ужо тры месяцы як у суседняй Літве прынялі Акт аб незалежнасці і выйшлі са складу СССР. І тут палягала асноўная розніца паміж тым, што было ў Беларусі і Літве, Эстоніі і нават Украіне: калі прадстаўнікі наменклатуры гэтых краін збіраліся паміж сабой, яны размаўлялі на нацыянальных мовах. Беларусы гаварылі паміж сабой па-руску.

Цяпер мы маем усе прыкметы незалежнай краіны. Але цяпер, фактычна, няма сіл супрацьстаяць анексіі, бо апошнія 20 гадоў у той ці іншай ступені нам насаджаўся «рускі мір».

Напачатку 1990-х гадоў Беларусь па шмат якіх эканамічных паказчыках апярэджвала суседзяў. Але сам беларускі народ з гэтага нічога не меў. Усё аддавалася ў Маскву і Ленінград. У нас была добрая навукаёмістая вытворчасць, цудоўнае геапалітычнае становішча, вельмі высокаадукаваная рабочая праслойка інжынерыі, даволі добры ўзровень жыцця, развіты аграсектар. Але быў адзін паказчык, па якім мы адставалі: узровень нацыянальнай свядомасці. Прайшло 20 гадоў — і гэты паказчык аказаўся галоўным. Таму нельга казаць, што праблема ў народзе. 200 гадоў знаходжання пад расійскай акупацыяй нельга выкрасліць з ментальнасці і ставіць у віну народу. А вось эліта вінаватая.

У 1993 годзе 80% першакласнікаў пайшлі ў беларускія школы, хаця вучыліся па рускамоўных падручніках. Сёння — вялізная праблема стварыць у 2-мільённай сталіцы незалежнай Беларусі беларускамоўную групу ў дзіцячым садку.

### Недамоваздольны Шушкевіч

З Кебічам можна было мець справу, а вось з Шушкевічам ніводнай праблемы вырашыць было немагчыма. Аднак атачэнне Кебіча было пякельным. Змяніць гэтую сітуацыю можна было, толькі змяніўшы ўладу. І мы ў 1991 годзе пасля здабыцця незалежнасці прапанавалі правесці выбары. Мы сабралі паўмільёна подпісаў за рэферэндум і пайшлі да Шушкевіча, які сказаў «не». Але да кастрычніка 1992 года людзям стала не да палітыкі, бо эканоміка развальвалася. Мы змаглі вывесці пад сцены Дома ўраду толькі каля 5–6 тысяч чалавек.

Шушкевіч зрабіў усё, каб рэферэндум быў правалены. І Вярхоўны Савет з партыйных генералаў у 1994 годзе прыняў Канстытуцыю з прэзідэнцтвам. Мы выступалі супраць прэзідэнцтва, бо разумелі, што будзе абраны «не наш» чалавек. 4 чэрвеня 1993 года была створана антыкарупцыйная камісія, і Станіслаў Станіслававіч сказаў, што вельмі хоча вылучыць на пасаду яе старшыні Лукашэнку. Хаця па рэгламенце ён не павінен быў так рабіць. Пытанне з прэзідэнцтвам было вырашана ўжо тады.

У жніўні 1993 года на з'ездзе народаў СССР Лукашэнка сказаў, што гатовы на каленях паўзці ў Расію. У адказ Васіль Быкаў надрукаваў артыкул, у якім пісаў, што дзеля ўлады некаторыя аб'ядналіся нават з д'яблам. Мы праз два тыдні запатрабавалі пазбавіць Лукашэнку дэпутацкіх паўнамоцтваў, але Шушкевіч нават не паставіў гэта на галасаванне.

Я вельмі паважаю Станіслава Шушкевіча як чалавека. Так, у яго былі добрыя адносіны з Лукашэнкам, але я адрываю версію, што ён быў завербаваны КДБ. Станіслаў Станіслававіч — чалавек імпульсу. Ён не змог пралічыць, што будзе, калі паставіць такога чалавека на кіруючую пазіцыю. Гэта была спантанная рэакцыя.

### Толькі пратэсты дазволяць пазбегнуць анексіі

На сітуацыю (у якой апынулася Беларусь. — НЧ) спрацавала нізкая нацыянальная свядомасць насельніцтва і адсутнасць салідарнасці ды неўсведамленне нацыянальных каштоўнасцей нашай нацыянальнай элітай. Многія дэпутаты глядзелі на дэпутацтва як на спосаб азалаціцца. Хаця былі і выключэнні.

Пуцін можа «абламаць сабе зубы» тым, што проста не «пераварыць» гэтую (беларускую. — НЧ) тэрыторыю. Паглядзіце, што адбываецца з Крымам: недабудаваныя дарогі, усё развальваецца. Паводле «Лявада-цэнтра», рэйтынг Пуціна ўпаў больш чым на чвэрць. Але, каб пазбегнуць анексіі, павінны быць пратэсты супраць яе ў грамадстве.

Я думаю, у цяперашнім урадзе ёсць дзяржаўнікі. Такія людзі ёсць, але яны не адыгрываюць вялікай ролі. Існуюць розныя версіі: што ўсім кіруе Масква, альбо што Лукашэнка сам прымае нейкія рашэнні. Я думаю, што ў большай ступені Лукашэнка вызначае ўсё сам, але, безумоўна, абапіраецца на кансультацыі спецслужбаў, і яны адыгрываюць большую ролю, чым урад. Гэта савецкая мадэль, яна вельмі небяспечная: калі нешта адбываецца з кіраўніком дзяржавы, у гэтым выпадку сітуацыя можа быць абсалютна не прагназаванай.

# Кошт прыбыткаў ад цыгарэт — рэпутацыя краіны

Алесь КІРКЕВІЧ

**Кантрабанда беларускіх цыгарэт з аднаго боку ўжо нагнала аскому, з іншага — так ніхто і не разабраўся: якім чынам усё гэта адбываецца, хто гэта «крышуе» і якія менавіта страты нясе з таго краіна?**

Сёння з Гродна ў Кракаў можна даехаць цягніком. Тыя два вагоны, якія ідуць ад нас, фактычна, акт добрай волі польскай чыгункі — праект аплачаны тым бокам. Каб гэтага цягніка не было, Гродна быў бы ізаляваны ў сэнсе чыгуначных спалучэнняў ад Захаду, бо літоўцы разабралі сваю частку рэек у нашым кірунку яшчэ ў 1990-я.

У адрозненне ад старой электрычкі, што раней хадзіла з Гродна ў Беласток, гэты цягнік выглядае цалкам прыстойна. Калі ж узгадаць тую, старую электрычку, то кожнае падарожжа на ёй падавалася «квэстам»: на вачах у разгубленых пасажыраў мужычкі ў скуранках літаральна раскручвалі абшыўку, сядушкі і нават падлогу, каб схаваць блокі цыгарэт да таго моманту, як у вагон трапяць польскія мытнікі…

І вось не так даўно палякам давялося адчапіць цэлы вагон Кракаўскага цягніка, бо ён апынуўся цалкам набіты цыгарэтамі: усё як у «старыя добрыя часы». І гэта ўжо не старая электрычка, а новы цягнік, разлічаны на прыстойных людзей. А значыць — працягваецца ўсё тая ж ганебная практыка, з-за якой кожны польскі мытнік бачыць у жыхары Беларусі кантрабандыста.

Як гэта робіцца? Перад тым, як трапіць у вагон цягніка, прайшоўшы беларускі пашпартны кантроль, пасажыры знаходзяцца ў «адстойніку», дзе працуе беларускі Duty Free, і там затарваюцца блокамі цыгарэт (афіцыйна ў Польшчу можна везці дзве пачкі). У цягніку ўсё гэта хаваецца, дзе толькі магчыма, і, пасля польскага кантролю знову дастаецца на свет, каб перакінуць ужо мясцовым дылерам.

Зразумела, што на такой элементарнай схеме зарабляюцца велізарныя грошы. Узбагачаецца на гэтым не столькі сам кантрабандыст, але і тытунёвыя магнаты, а шырэй — дзяржава. Але якім коштам? Коштам рэпутацыі краіны.

Ці можа ўсё гэта адбывацца без маўклівай згоды нашых афіцыйных структураў? Напрыклад, у мінулым годзе палякі затрымалі цэлы грузавы вагон з падвойнай сцяной: там было 20 000 пачак цыгарэт. Кантрабанду канфіскавалі, злачынцаў не знайшлі… Не чыгуначнікі ж гэта рабілі, тады — хто? Палякі бачаць працэс толькі са свайго боку, а беларускі бок пытанне нібы ігнаруе.

І фактаў такіх безліч. Ва Украіне ледзьве не трацiна цыгарэт на рынку — беларускія. Адтуль яны таксама расцякаюцца па ўсёй Еўропе. Нездарма кіраўнік Закарпацкай вобласці Генадзь Маскаль пару гадоў таму казаў, што асноўныя праблемы іх рэгіёну — гэта гандаль зброяй ды кантрабанда цыгарэт Гродзенскай тытунёвай фабрыкі.

Безакцызныя беларускія цыгарэты ва Украіне можна набыць нават на аптовых сайтах. А калі без акцызаў, значыць, тавар выходзіць з фабрыкі нелегальна? З той самай Гродзенскай тытунёвай фабрыкі з жалезнымі кратамі на вокнах і высокім парканам вакол тэрыторыі?.. Усё вышэйсказанае — шэраг пытанняў. Зразумела, што гэта бізнес, дзяржава зарабляе грошы. Але што рабіць, калі коштам робіцца нацыянальная ганьба? Як ацаніць рэпутацыйныя страты? Можна колькі заўгодна ладзіць двухбаковыя візіты і фестывалі, але пакуль цыгарэтная мафія будзе квітнець, наўрад ці ўдасца выбіць з галоваў польскіх службоўцаў фармулёўку: «беларус = кантрабандыст».

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Імпартазамяшчэнне XIX стагоддзя

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Якая краіна — такія і тэракты», — казаў вясковец, гледзячы, як «кукурузнік» упёкся ў хлеў. Прыкладна так можна сказаць і пра мінулы тыдзень. Усе абмяркоўваюць раскол праваслаўных на больш праваслаўных і менш праваслаўных. А нехта ў той жа час думае над тым, як запусціць ракету на Марс і адкрыць новыя элементарныя часціцы!**




Фота www. tut.by

Цягам усяго тыдня мяне не пакідала адчуванне, што мы загразлі ў тых часах, дзе зямля плоская, а неба цвёрдае. І не толькі таму, што ў Мінск прыехалі барадатыя мужы ў рознакаляровых халатах. Так было ва ўсім. Напрыклад, Аляксандр Рыгоравіч у чарговы раз (у які ўжо!) абрынуўся на пасярэднікаў у гандлі і даручыў прэм'ер-міністру краіны Сяргею Румасу актывізаваць імпартазамяшчэнне.

«Мы яшчэ па імпарту столькі завозім, што ў вачах часам становіцца цёмна: ад калыпкоў да рухавікоў. Імпартазамяшчэнне — вельмі важнае пытанне. Нічога не трэба выдумляць, трэба ставіць станкі, тэхналагічнае абсталяванне і вырабляць камплектуючыя», — сказаў Лукашэнка Румасу ў аўторак.

Па-першае, праблему «імпартазамяшчэння» трэба ўвогуле забыць. Хаця б таму, што гэтая задача ставіцца перад кожным прэм'ерам ад пачатку кіравання Лукашэнкам краінай. І ніводзін прэм'ер (і нават сам Лукашэнка) за чвэрць стагоддзя гэтую праблему не вырашыў.

Па-другое, навошта яе ў прынцыпе вырашаць? Нам, наадварот, не трэба ставіць «станкі і тэхналагічнае абсталяванне» — гэта толькі марнаваць час і грошы. Таму што створанае намі «імпартазамяшчэнне» будзе толькі копіяй, а значыць — горшым за арыгінал. А пакуль мы будзем капіяваць старое, наноў вынаходзіць ровар, астатні свет будзе ствараць новае і рухацца наперад. Дык ці не лепей выдаткоўваць грошы і высілкі на стварэнне новага, чым паўтор старога?

Ну і па-трэцяе — гэта Румас павінен пытацца ў Лукашэнкі, чаму мы завозім «калыпкі», а не ствараем іх самі. Бо гэта кіраўнік краіны некалькі гадоў таму развіў бурлівую дзейнасць па «мадэрнізацыі дрэваапрацоўкі». А Румас, які ў той час быў кіраўніком Банку развіцця, даваў на гэта грошы. І зараз «інвестар» Румас павінен пытацца ў «атрымальніка інвестыцый» Лукашэнкі — чаму, калі шалёныя рэсурсы былі выдаткаваны на дрэваапрацоўку, мы ўсё яшчэ імпартуем калыпкі?

Кіраўнік дзяржавы таксама падкрэсліў неабходнасць вырашэння праблемы пасярэдніцтва, якое, на яго думку, часта становіцца асновай для карупцыйных схем. «За што людзі ідуць у следчы ізалятар, а потым у турму, і перш за ўсё чыноўнікі? Усе павязаныя пасрэдніцкімі схемамі. І што дзівіць — у нас пасярэднікі нават на беларускую прадукцыю. У Мінску вырабляем, і праз пасярэдніка мінскія прадпрыемствы купляюць», — сказаў Лукашэнка.

Насамрэч, у гэтых пасярэдніцкіх схемах няма нічога дзіўнага. Бо пасля слоў Лукашэнкі мне адразу згадалася, як калегі-журналісты праводзілі эксперымент: хацелі набыць у МТЗ трактар. І не змаглі, бо ў аддзеле маркетынгу прадпрыемства не бралі слухаўку. А калі нарэшце туды датэлефанаваліся, высветлілася, што там ніхто дакладна не ведае, колькі трактар каштуе.

Таму прадукцыю прадаюць тыя, хто ўмее прадаваць. Калі існуюць пасярэдніцкія схемы — значыць, нехта проста прадаваць не ўмее, і гэтым карыстаюцца тыя, хто ўмее гэта рабіць.

З пасярэднікамі Лукашэнка таксама змагаецца ад часоў свайго першага абрання. І за чвэрць стагоддзя нікога не перамог. Дык ці не лепш спыніць гэтую марную справу і пакінуць усё, як ёсць? Тым больш, ніхто, апроч яго самога, на гэтых пасярэднікаў не скардзіцца.

Пра эфектыўнасць нашага «імпартазамяшчэння» і «беспасярэднікаў» — яшчэ адна цікавая навіна тыдня. Як піша кіраўнік ініцыятыўнай групы грамадзян Светлагорска па кантролі за будаўніцтвам завода беленай цэлюлозы Анатоль Змітровіч, з аб'екта ў чарговы раз з'язджаюць кітайскія працоўныя, якія яго будавалі. Кажуць, на пуск завода няма ані сродкаў, ані ўмоваў. У мінулы раз яны з'ехалі, калі няправільны праклалі сілавы кабель, што паставіла пад пагрозу выбуху і сам завод, і прылеглыя да яго тэрыторыі. Зараз, як высвятляецца, гэтыя гора-будаўнікі парушылі праект будоўлі, у выніку чаго жыхары Светлагорску і скардзяцца на смурод, які раз-пораз накрывае горад.

Як паведаміла першы намеснік міністра навакольнага асяроддзя Ія Малкіна, «згодна з праектнай дакументацыяй па аб'екце, якая раней прайшла дзяржаўную экалагічную экспертызу, усе смурдныя пахі павінны былі абясшкоджвацца без ажыццяўлення выкідаў у атмасферу... Аднак у працэсе пусканаладачных работ высветлілася, што прадпрыемствам не заўсёды забяспечваецца стабільны рэжым працы з рэалізацыяй праектных рашэнняў па абясшкоджванню нізкаканцэнтраваных шкодных рэчываў».

Мы хацелі атрымаць «імпартазамяшчэнне» беленай цэлюлозы, а атрымалі купу праблемаў. І хто будзе зараз адказны за гэтыя праблемы — невядома. Прычым, 85% кошту прадпрыемства — крэдыт кітайскага ж банку, які трэба аддаваць. А прадпрыемства, якое павінна было запусціцца тры гады таму, не працуе дагэтуль.

Але што ў нас працуе? У нас працуе тое, куды дзяржава не ўлазіць са сваім «імпартазамяшчэннем», і не ўлазіць увогуле. ЗАТ «Штадлер Мінск», як паведамляе БелТА, да канца года плануе запусціць новы вытворчы корпус. «Ужо гатовы механаабробчы цэх. Да канца года запускаем цэх зварачных работ, да сакавіка 2019 года — малярны цэх. Пасля завяршэння праекта колькасць працоўных месцаў павялічыцца на 280. Мы ўжо набіраем новых работнікаў, летам наступнага года патрэба ў кадрах яшчэ больш узрасце», — адзначыў кіраўнік заводу Філіп Брунер. Новы корпус дазволіць павялічыць вытворчыя магутнасці ў два разы і збіраць дадаткова 300 вагонаў на год.

Гэта, магчыма, таму, што Бруперу ніхто не загадвае замясціць вытворчасць айчыннымі запчасткамі і набываць фарбу без пасярэднікаў. Ён сам выдатна ведае, дзе якасныя камплектуючыя і ў каго патрэбныя запчасткі.

Ну і напрыканцы добрая навіна. У Адміністрацыю прэзідэнта ўнесены праект указа аб павышэнні пенсій на 5,3%. Плануецца, што з лістапада пенсіі павысяцца на 20 рублёў — да 394 рублёў. А яшчэ Румас заявіў, што ў верасні сярэдні заробак у краіне нарэшце дасягне 1 тысячы рублёў і больш паніжацца не будзе.

Ці сапраўды гэта адбудзецца? Верагодна. Але ёсць пытанне больш складанае: чым мы за гэта заплацім? Інфляцыяй альбо дэвальвацыяй?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Аляксандр Шрамко



**Беларускі святар раскрытыкаваў кіраўніка РПЦ за паводзіны ў Мінску, і за гэта на год быў пазбаўлены права служэння.**

Клірык мінскага прыходу Міхаіла Арханёла Аляксандр Шрамко звярнуў у фэйсбуку ўвагу на тое, як прайшоў візіт патрыярха Кірыла ў Свята-Духаў кафедральны сабор Мінска: «Вось цябе чакаюць не адну гадзіну на вуліцы. Цябе. Чакаюць. Яшчэ. Не так шмат, як у былыя гады. Але ўсё ж хтосьці прыходзіць. Камусьці ты цікавы. Нават калі не пускаюць у сабор, куды ўваход толькі па пропусках. Яны прыйшлі і будуць увесь вечар стаяць на вуліцы, задавальняючыся трансляцыяй на экран. Як быццам яны і так не могуць нагледзецца падобнага на якім-небудзь «Саюзе». Чаму не даць ім мінімальны жывы кантакт? Чаму трэба пад'язджаць на машыне да самай брамы сабора, а пасля выхаду з яе нават не абярнуцца? Няўжо так цяжка выйсці хаця б за 100 ці 50 метраў і прайсці некалькі дзесяткаў крокаў, вітаючы і дабраслаўляючы народ?» — напісаў Шрамко.

У адказ мітрапаліт Павел асабіста зачытаў пастанову, згодна з якой Шрамко на год пазбаўляецца сану і права служэння. Падстава — «за парушэнні іерэйскай прысягі і сістэматычныя публікацыі ў СМІ, якія дыскрэдытуюць Праваслаўную царкву і сеюць у сэрцах людзей варажнечу і нянавісць».

Айцец Аляксандр кажа, што праз год з ім зноў правядуць гутарку і ў выпадку пакаяння яму могуць зноў дазволіць служыць. Сам святар кажа, што абсалютна не шкадуе, што зрабіў у фэйсбуку той допіс, які і стаў прычынай яго адхілення. А ўказ пра яго адхіленне быў падрыхтаваны з памылкамі статута. У такіх выпадках абавязковым мусіць быць кананічнае абгрунтаванне, а яго ў дакументце няма.

## Мікалай Статкевіч



**Палітык у чарговы раз арыштаваны на пяць сутак. Гэтым разам у Брэсце за салідарнасць з брэстаўчанамі, якія змагаюцца з будаўніцтвам акумулятарнага заводу.**

Рашэнне пра арышт вынес суд Ленінскага раёна Брэста.

Статкевіча затрымалі на акцыі пратэсту супраць будаўніцтва акумулятарнага завода ў Брэсце. Разам з палітыкам былі арыштаваныя блогеры Сяргей Пятрухін і Аляксандр Кабанаў і некалькі актывістаў. Мікола Статкевіч адразу адмовіўся ўдзельнічаць у судовым працэсе. Ён заявіў суддзі, што не лічыць гэты суд законным. «Я і вас прыехаў ад гэтага свінцу абараняць. Вы самі сябе не паважаеце і пры гэтым хочаце, каб я вас паважаў», — заявіў палітык.

Той жа суд за парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў паўторна на працягу года прысудзіў па пяць сутак арышту блогерам Сяргею Пятрухіну і Аляксандру Кабанаву. Але яны засталіся на волі. «Перад судовымі заданнямі нам з Пятрухіным уручылі позвы, што мы павінны 19 кастрычніка з'явіцца ў Ленінскі РАУС у якасці асоб, у дачыненні да якіх вядзецца адміністрацыйны працэс. І тады, я думаю, нас закрыюць», — паведаміў БелаПАН Кабанаў.



## Іна Касцючэнка

**Беларускую жаночую зборную па біятлоне папоўніла Іна Касцючэнка.**

23-гадовая ўраджэнка Комі вельмі паспяхова выступала ў лыжных гонках, займаючы прызавыя месцы на ўсерасійскіх спаборніцтвах і была адной з перспектыўных юніёрак. Цяпер яна — біятланістка нацыянальнай зборнай Беларусі і на чэмпіянаце гэтай краіны па летнім біятлоне ў дзвюх гонках ледзь не трапіла на п'едэстал.

Пры гэтым Іна збіраецца працягнуць выступы і ў лыжах ды на Універсіядзе 2019 года ў Краснаярску паспрабаваць сябе ў двух відах спорту адначасова.

«У Расіі я не была ў нацыянальнай зборнай, а ў Беларусі — ужо ў ёй. Падчас сумесных збораў з беларусамі паступіла прапанова. І я вырашыла рызыкнуць. Тым больш, калі нешта не атрымаецца, вярнуцца заўсёды можна. Але пакуль пачатак сезону складваецца дзіўна. Да лета я і вінтоўку ў руках не трымала, а цяпер — у нацыянальнай зборнай па біятлоне».

Нагадаем, што сёлета пра завяршэнне кар'еры заявілі Дар'я Домрачава і Надзея Скардзіна. Завязаць са спортам думае Надзея Пісарава. Дзінара Алімбекава атрымала траўму. Беларуская біятлонная жаночая зборная шукае таленты.

Азбука паліталогіі

# Пра карысць добрага рэменя



Сяргей НІКАЛЮК

**У рэпрэсіўнай культуры якойсьці іншай дысцыпліны, акрамя дысцыпліны «палкі» ці яе аналагаў, не бывае.**




На досвітку беларускай незалежнасці адна з недзяржаўных газет апублікавала выдатную па лаканічнасці карыкатуру. Намаляваны быў рэмень з напісанымі на ім трыма Ленінскімі словамі: «Вучыцца, вучыцца, вучыцца».

Мінула чвэрць стагоддзя. Сваёй актуальнасці карыкатура не страціла, пра што і абвясціў адзіны палітык (АП) 5 кастрычніка на палігоне ў Івацэвіцкім раёне падчас агляду ўзораў айчыннай зброі і тэхнікі. Цытую: «Трэба зыходзіць з той сітуацыі, якая ў нас складваецца. Добры рэмень часам таксама карысны для дзіцяці».

Два кароткіх сказы, але колькі яны спараджаюць пытанняў! Па-першае, пра якую сітуацыю ідзе гаворка? Хаос пачатку 1990-х гадоў даўно пераадолены. Бандыцкая прыватызацыя спыненая. Усе мы — нашчадкі бацькоў і дзядоў, якія ўзнялі над Рэйхстагам сцяг перамогі. «Беларуская мадэль эканамічнага развіцця», як і дзяржаўная ідэалогія, аснову якой складае патрыятызм, сталі рэальнасцю. Кожны чытач "Новага Часу" здольны працягнуць спіс дасягненняў.

Па-другое, што трэба разумець пад «добрым рэменем»? Як простаму чалавеку, не надзеленаму, як АП, ад прыроды «інтуіцыяй, харызмай, сілай характару, уменнем вылучыць галоўнае і здольнасцю прыняць аптымальнае рашэнне ў складаных абставінах», адрозніць добры рэмень ад дрэннага? (Пералік станоўчых характарыстык АП я запазычыў у акадэміка Анатоля Рубінава).

Зразумела, у адпаведнасці з законам «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў», можна звярнуцца па параду непасрэдна да АП або хаця б да кіраўніка раённай адміністрацыі. Але калі мне памяць не здраджвае, галоўная характарыстыка нашага часу — хуткасць, а па законе ў чыноўнікаў ёсць месяц на падрыхтоўку адказу. Але за месяц актуальнасць пакарання можа быць страчаная, а гэта негатыўна адаб'ецца на тым, што АП назваў «карысцю для дзіцяці».

Здавалася б, наяўнасць адпаведнага закона вырашыла б праблему. Такую задачу і ставілі перад сабой аўтары канцэпцыі закона супраць хатняга гвалту. Але ж «усё ў законах не прапішаш». Аднак не варта адчайвацца. У народа, які так і не здолеў завяршыць пераход ад традыцыйнай эпохі да мадэрну, на гэты выпадак ёсць справядлівасць, якая «вышэй за закон заўсёды, калі на тое пайшло».

Пра вяршэнства справядлівасці над законам шмат чаго цікавага могуць распавесці кандыдаты ў прэзідэнты, якіх у Беларусі рэгулярна збіваюць падчас выбарчых кампаній. Але гэта тэма для асобнай гаворкі…

Вернемся да карысці лупцоўкі. Вось як яе апісаў сам АП: «Віктар, як старэйшы, часта атрымліваў ад мяне. Сярэдні, Дзіма, ужо бачыў, як Віцю трапляла, і роўненька стаяў побач».

Вось якое, аказваецца, простае тлумачэнне! Карысць — у паслухмянасці! У рамках «беларускай мадэлі эканамічнага развіцця» толькі ад паслухмяных выканаўцаў і можа быць карысць, інакш мадэль пойдзе ў разнос. А стабільнасць, якая разумеецца як нязменнасць, — гэта наша ўсё. Таму актыўныя, самастойныя людзі ёй процыпаказаныя.

Якія пагрозы хавае для аўтарытарнай улады «непоротое поколение», добра вядома з гісторыі Расійскай імперыі. У 1762 годзе Пётр III падпісаў указ аб «Вольнасці дваранства», які, у прыватнасці, забараняў лупцаваць дваран пугамі, што запусціла працэс фарміравання людзей з асабістай годнасцю. І пайшло, і паехала. Ну як тут не працытаваць правадыра сусветнага пралетарыяту: «Дзекабрысты абудзілі Герцэна. Герцэн разгарнуў рэвалюцыйную агітацыю. Яе падхапілі, пашырылі, умацавалі, загартавалі рэвалюцыянеры-разначынцы, пачынаючы ад Чарнышэўскага і заканчваючы героямі «Народнай Волі».

**Рэпрэсіўная культура падтрымліваецца і перадаецца не столькі праз суб'ектаў, колькі праз аб'екты рэпрэсій. Таму спасылкі АП на вынікі рэферэндуму, згодна з якімі Беларусь з'яўляецца адзінай дзяржавай у Еўропе, якая прымяняе смяротнае пакаранне, не пазбаўленыя падставаў**

#### Напярэдадні двухсотгадовага юбілею

Што агульнага паміж рэменем як крыніцай усеагульнай карысці і дружным галасаваннем беларусаў на рэферэндуме ў 1996 годзе супраць адмены смяротнай кары? А ў тым, што галасаванне было дружным, сумнявацца не даводзіцца. І справа тут не ў працэнтах, абвешчаных ЦВК (67% ад колькасці тых, хто меў права ўдзельнічаць у рэферэндуме). Апытанні НІСЭПД унікальную крыважэрнасць беларусаў неаднаразова пацвярджалі.

Апошні раз пытанне пра неабходнасць адмены смяротнага пакарання незалежныя сацыёлагі задавалі ў сакавіку 2016 года. Супраць адмены выказалася 52%, за — 36% і 12% не здолелі вызначыцца з адказам. Варта заўважыць, што ўзровень крыважэрнасці сярод жанчын апынуўся вышэйшым, чым сярод мужчын, — 55% vs. 47%.

Гендарны перакос у НІСЭПД патлумачылі тым, што «пры выбары паміж стабільнасцю і зменамі жанчыны ў большай ступені схільныя аддаваць перавагу стабільнасці, а на ролю галоўнага гаранта стабільнасці ў культуры беларускай «большасці» ў моцнай (такім чынам, рэпрэсіўнай) дзяржавы няма канкурэнтаў».

Да культуры апеляваў і АП, калі тлумачыў карысць рэменя: «Гэта наша традыцыя, наша жыццё, і мы будзем выхоўваць так, як трэба». А нашы традыцыі не варта блытаць з традыцыямі не нашымі, г. зн. еўрапейскімі: «Дзесьці хтосьці ляпнул — аб супрацьдзеянні гвалту ў сям'і. Гэта цяпер модная фармулёўка на Захадзе. У іх хутка сем'ю не будзе: мужык з мужыком ажэніцца або замуж павыходзіць. Дзяцей няма каму нараджаць. А мы ў іх запазычваем нейкія нормы паводзін у сям'і».

Аўтар цытаты — праваслаўны атэіст. А ці мог бы яе вымавіць атэіст ісламскі? Асабіста я перашкодаў для гэтага не бачу.

Прынята лічыць, што ў аснове культуры Усходу ляжыць калектывізм, а Захаду — індывідуалізм. Але як дзейнічаюць заходнія індывідуалісты, калі сутыкаюцца з непапулярнымі рашэннямі ўрада? Яны самаарганізуюцца і з дапамогай палітычнай актыўнасці спрабуюць дамагчыся такіх законаў адмены або карэкціроўкі.

Па колькасці непапулярных, а часам і папросту ідыёцкіх рашэнняў наша ўлада — не канкурэнт заходняй. Але як паводзіць сябе ў такім выпадку «чалавек савецкі», а ў цяперашні час яго постсавецкі правапераемнік? Ён ціха і ўадзіночку абыходзіць закон, як можа. Строгасць законаў у нас кампенсуецца неабавязковасцю іх выканання. Двухсотгадовы юбілей гэтага базавага прынцыпу айчыннай культуры хутка будзе адзначаць уся прагрэсіўная постсавецкая грамадскасць.

Але змагацца з несправядлівасцю заходні чалавек можа і ў адзіночку. Звернемся па каментар да культуролага Андрэя Пеліпенкі: «Што робіць герой амерыканскага баевіка, дзе тыповыя мадэлі паводзін заходняга чалавека пададзеныя ў завостраным, часта да прымітыўнасці выглядзе, калі ён сутыкаецца са свавольствам і гвалтам? Бярэ вінтоўку (пісталет, аўтамат, кулямёт, гранатамёт, ці хаця б бейсбольную біту) і, не задумваючыся, ідзе абараняць сябе, сваю годнасць, сваю ўласнасць, сваіх блізкіх».

У гэтай сувязі рэкамендую чытачам паглядзець адзначаны шматлікімі ўзнагародамі фільм 2017 года «Тры білборды на мяжы Эбінгу, Місуры».

#### Паводле «бразільскай сістэмы»

Але заходні герой-адзіночка не самотны. На яго баку — універсальны закон, які і надае яму сілы. У гэтым прынцыповае адрозненне не нашага закона ад нашага. Апошні заўсёды на баку дзяржавы. Таму барацьба са злом у нас была, ёсць і будзе функцыяй начальства, а не прыватных асобаў. Максімум, што ім дазволена — сігналізаваць, г.зн. у адпаведнасці з законам «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў» падаваць скаргі.

Культуры падзяляюцца на рэпрэсіўныя і на культуры заахвочвання. Зразумела, што ў рэальным жыцці ні тая, ні другая ў чыстым выглядзе не існуюць. Аднак, як правіла, нейкая з іх пераважае.

У гэтай сувязі цікавы прыклад, які прывёў у газеце «Ведамасці» эканаміст Максім Буеў: «У 47-м выпуску дзіцячага гумарыстычнага кіначасопіса «Ералаш» футбольнага брамніка трэніруюць паводле «бразільскай сістэмы». Сутнасць яе палягае ў тым, што за спіной галкіпера знаходзіцца вітрына цырульні: любы прапушчаны мяч павернецца пабітым акном. Такі сцэнар — алегорыя сістэмы, у якой страх з'яўляецца галоўным матыватарам прагрэсу».

Уладальнік доктарскай ступені, атрыманай у Оксфардзе, Буеў тлумачыць, што ў складаных сістэмах памылкі непазбежныя, таму такі спосаб матывацыі з'яўляецца ад пачатку памылковым. Тым не менш, у «беларускай мадэлі» ён з'яўляецца базавым. Прыгадаем візіт АП у Воршу і аргвысновы, якія ён справакаваў.

Але, насуперак міфалогіі, рэпрэсіўная культура падтрымліваецца і перадаецца не столькі праз суб'ектаў, колькі праз аб'екты рэпрэсій. Таму спасылкі АП на вынікі рэферэндуму, згодна з якімі Беларусь з'яўляецца адзінай дзяржавай у Еўропе, якая прымяняе смяротнае пакаранне, не пазбаўленыя падставаў.

Пры гэтым першы радок нацыянальнага гімна («Мы беларусы — мірныя людзі») ніколі не павінен уводзіць у зман. «Міру — мір», а смерці — смяротнае пакаранне. Адно аднаму, як сведчыць гісторыя, не перашкаджае.

# Мама ў шафе, я — ля вакна...

Аксана КОЛБ

**У мяне няма адназначнага меркавання наконт закону аб хатнім гвалце. Бо, калі гвалт ляжыць у аснове ўсёй дзейнасці ўлады, ні адзін закон нічога не зменіць. Але... Магчыма, менавіта само існаванне такога закона камусьці выратуе жыццё ці пакіне цэлай сківу. Для мяне асабіста «хатні гвалт» — не проста словазлучэнне.**



**Аксана Колб:**

**«Мама, чаму ты не развялася адразу, як толькі ён падняў на цябе руку?»**

## Шафа як паратунак

Шэсць гадзін вечара на гадзінніку. Я ў трывожным чаканні, што будзе сёння?

Шэсць пятнаццаць... Тата не прыйшоў. Але можа проста крыху затрымаўся, якая-небудзь тэрміновая замова на працы.

Шэсць трыццаць. Можа яшчэ абыдзецца...

Шэсць сорак пяць. Ён не прыйшоў. Значыць, сёння будзе «весела». Я займаю сваю варту ля вакна. Пільнаваць, калі ён будзе вяртацца. Пакуль ён падымецца на наш трэці паверх, мама паспее схавацца ў шафе. Я скажу, што яна ў суседкі. «Нічога дачушка, — адкажа тата, — Я знайду табе новую маму, лепшую». Ад яго будзе смярдзець алкаголем (ненавіджу гэты пах). Ён будзе нешта расказваць. Потым пойдзе на кухню, каб выпіць свой морс (мама ўжо дадала ў яго дымедролу, менавіта ў ампулах, каб без горкага смаку). Хутка ён засне, і тады мама вылезе з шафы.

Гэтым разам абышлося. Заўтра я прачнуся ад таго, што мама і тата будуць крычаць адзін на аднаго... Потым яны пойдуць на працу. Я ў школу. А вечарам я зноў буду глядзець на гадзіннік. Шэсць вечара. Мне — 9, 10, 11 гадоў...

Хітрык з шафай мы з мамай прыдумалі не адразу. Да гэтага былі гучныя скандалы, маміны разбітыя ногі (ён часта біў носікам пантофляў у вялікабярцовую костку), нос, сківаці і яшчэ шмат чаго. Я плакала, крычала, спрабавала закрыць сабой маму.

Аднойчы дасталася і мне. Мы ўжо спалі, калі прыйшоў бацька. І амаль адразу пачаў біцца. Я кінулася да мамы і атрымала кулаком па галаве. Гэта быў адзіны выпадак, калі дасталося і мне. Звычайна, ён біў толькі маму. За тое, што боршч перасолены, што малако паднесла занадта павольна, што я захварэла, што пыл недзе знайшоўся, што не так сказала, не так паглядзела... Нагода заўсёды знаходзілася.

Усё скончылася, калі мне было 13 з хвосцікам. Быў лістапад. І быў чарговы віток агрэсіі. Гэтым разам мы нават збеглі з дому і хаваліся ў маміных знаёмых. Прыехала мая старэйшая сястра (яна ад першага шлюбу, старэйшая за мяне на 19 гадоў). Яна сказала, што забярэ мяне з сабой, калі мама не падасць на развод.

Мама падала. А мы ўсе разам напісалі заяву ў міліцыю. Бацьку пасадзілі на 15 сутак. Развод афармілі вельмі хутка, за што трэба быць удзячнымі суддзі і маміным сувязям у маленькім горадзе. Больш за тое, бацьку выпісалі з кватэры (яна была мамінай). Нам сказалі, што калі мы не забярэм свае заявы, то на бацьку нават завядуць крымінальную справу. Мама і сястра забралі.

З гэтага часу пачалося маё новае жыццё. Я нарэшце змагла паехаць у летнік, пайсці кудысьці вечарам і больш не праседжваць гадзінамі ля вакна.

## Гвалт як традыцыя

Я з'явілася на гэты свет 8-месячнай. Не таму, што так спяшалася, а таму што тата пабіў маю цяжарную маму. Роды былі цяжкія, мама ледзь выжыла. І я выжыла.

Біцца тата пачаў ледзь не адразу, як яны пачалі жыць разам. А да гэтага былі заляцанні, кветкі, сустрэчы пасля працы і шмат усяго такога, што робяць мужчыны, калі хочуць атрымаць менавіта гэту жанчыну.

Гэта быў другі шлюб для мамы. Яе першы муж памёр ад сухотаў. Яна засталася адна з 14-гадовай дачкой. Шчасце ў першым шлюбе было нядоўгім. Смерць другога дзіцяці, а пасля нечаканая хвароба мужа, недахоп грошай.

З маім татам яны пазнаёміліся, калі мама спявала ў хоры медыкаў, а ён быў там акампаніятарам, граў на баяне. Праз пэўны час яны сталі жыць разам. Хутка пачаліся скандалы, пасля пабоі. Мама паскардзілася свайму бацьку. Ён нават прыехаў, каб разабрацца з зяцем. Разабраўся... Сказаў, што яна сама вінаватая, дрэнна дагледзе мужа. Ды і ці магло быць інакш. Мой дзед ніколі не быў узорам клапатлівага мужа і бацькі. А бабуля аднойчы нават збегла ад яго з чатырма дзецьмі на руках. Пасля, праўда, вярнулася. Такія вось сямейныя традыцыі...

Мая старэйшая сястра вытрымала нядоўга і фактычна збегла з дому спачатку ў медвучэльню, а ў 18 гадоў — замуж. Ці быў шчаслівы яе шлюб? Не. Але гэта зусім іншая гісторыя.

Тата біўся, толькі калі быў нападпітку (не зусім п'яны, а менавіта нападпітку). Піў ён не ўвесь час. Былі сухія перыяды, у якія нам нават удавалася нешта набыць за тыя грошы, што ён зарабляў. Ён быў вельмі таленавіты як у музыцы, так і ў рамонце розных электронных прылад. Сам збіраў тэлевізары і лядоўні, магнітафоны і такія модныя ў той час радыёпрыёмнікі «ВЭФ». Каб не гарэлка... Нападпітку ён вар'яцеў і, здаецца, усю сваю незадаволенасць жыццём вымяшчаў на маці. А яна цярпела...

## Дзеці як апраўданне

«Мама, чаму ты з ім не развялася раней?» — часта пыталася я. «Спачатку любіла, пасля не хацела цябе бацькі пазбаўляць», — казала яна.

Але наяўнасць такога бацькі пазбавіла мяне дзяцінства. Я хачу і не магу сказаць, што дзяцінства ў мяне было калі не шчаслівае, то хаця б нармальнае. Узгадаць бы хоць штосьці, што пакідала б ілюзію шчасця.



Вось мы пайшлі пагуляць у парк, каталіся на каруселях, ведаеце, такія, дзе па крузе круцяцца розныя конікі, алені, сланы, вярблюды... Я любіла аленя. І трэба ж было забыцца на тым алені цацку, якую мне набылі. Я плачу ад гэтага. А тата з мамай пачынаюць сварыцца. Тата грукае дзвярыма і сыходзіць, ці то за маёй цацкай, ці то, каб сысці ад скандалу.

Гэтым вечарам ён прыйшоў п'яны — і скончылася ўсё бойкай. Вось мы пайшлі ў лес па грыбы. Нешта пайшло не так, зноў сварка. Зноў п'яны дэбош увечары.

Хаця не, былі светлыя моманты. Тыя месяцы, калі ён не піў. Я сядзела з ім на кухні (звычайна тут вечарам ён займаўся са сваімі дэталямі і прыладамі), назірала з тым, як мільгае ў яго руках паяльнік, тэстар, як ён намотвае віткі трансфарматара... Гадоў у восем я сабрала сваё першае радыё. І нават апечаныя паяльнікам рукі не маглі прымусіць мяне сысці ў такія моманты з кухні.

Пасля такіх вечароў яшчэ больш балючымі былі вечары ля вакна на той жа кухні.

«Мама, чаму ты не развялася адразу, як толькі ён падняў на цябе руку?» — зноў і зноў пыталася я, ужо тады, калі ўсе жахі сумеснага жыцця з маім татам былі ў мінулым. Яна не ведала, што адказаць. Гэтак жа, як, напэўна, не ведаюць, што адказаць шматлікія ахвяры хатняга гвалту. А можа і ведала, проста ёй самой было сорамна, балюча і крыўдна за сябе. За тое, што не здолела сказаць «НЕ» раней.

## Ёсць выйсце

Шматлікія даследаванні пацвярджаюць, што часцей за ўсё дзеці, якія выраслі пры бацьку-тыране і маці-ахвяры паўтараюць гэты шлях. Сумная статыстыка дадае, што шмат якія жанчыны гінуць ад рук такіх сваіх мужоў. Некаторыя мужы гінуць ад жанчын, у якіх больш не было сіл цярпець. Некаторыя дзеці папаўняюць шэрагі крымінальнікаў, бо шукаюць паратунку ад хатняга гвалту на вуліцы, часта з дапамогай алкаголю. Кажуць, што шмат хто з такіх дзяцей пасля стварае такія ж нешчаслівыя сем'і.

Усё так. І мая мама магла загінуць падчас чарговага збіцця. Так, як пазней загінула бацькава служыцелька і кампаньёнка па выпіўках. Аднойчы ён проста забіў яе да смерці. За што і атрымаў 13 гадоў турмы. Адсядзеў палову тэрміну і памёр за кратамі ад інфаркту (прынамсі, так было напісана).

І я магла скончыць невядома дзе і як. Бо недзе гадоў у дванаццаць збіралася забіць бацьку. Мама перахапіла мяне з нажом, калі я падыходзіла да яго ложка... Дзякуй ёй за гэта.

Але гэтага не здарылася. Не здарылася таму, што мама здолела выйсці з гэтых гвалтоўных адносін, скасаваць шлюб, навучыцца давяраць зноў і жыць далей з верай у лепшае. Мама пасля зноў выйшла замуж і пражыла яшчэ больш за 20 гадоў шчаслівага шлюбу.

Тым не менш, наступствы тых гадоў я пераадольвала доўга і цяжка. Вучылася прабачаць, стрымліваць гнеў і лютасць. Вучылася радавацца жыццю і не чакаць падвохаў. А яшчэ дакладна ведала, што ніколі і нікому не дазволю сябе біць, прынамсі беспакарана.

Не дазваляйце гэтага і вы, не трывайце гвалт, не забівайце дзяцінства вашых дзяцей. Незалежна ад таго, будзе прыняты закон супраць сямейнага гвалту ці не, памятайце, ніякая традыцыя не вартая вашай годнасці і жыцця. Не цярпіце, не прыдумляйце апраўданні, каб цярпець. Гвалт — гэта гвалт.

***

Ні мамы, ні таты даўно няма на гэтым свеце. А я даўно ўсё прабачыла. Таму, магчыма, і змагла ўсё гэта напісаць. Можа, хтосьці, прачытаўшы гэта, здолее зрабіць свой крок у лепшае жыццё.



# Вертыкаль: умацаванне ўлады

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Адзін з асноўных элементаў беларускага палітычнага рэжыму, створанага за чвэрць стагоддзя Аляксандрам Лукашэнкам, — так званая «прэзідэнцкая вертыкаль». Гэтая структура пачала фармавацца амаль дваццаць пяць гадоў таму, калі 6 кастрычніка 1994 года Вярхоўны Савет 12 склікання зацвердзіў змены і дапаўненні ў закон аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы (быў прыняты яшчэ 20 лютага 1991 года).**




Фота Арцёма Лявы

Ноу-хаў палягала ў тым, што кіраўнік краіны прызначаў кіраўніка вобласці (а таксама «мэра» Мінска) з наступным зацвярджэннем на сесіі адпаведнага абласнога Савета. Кіраўнік вобласці, у сваю чаргу, прызначаў старшынь раённага і гарадскога выканаўчых камітэтаў. Тыя таксама зацвярджаліся адпаведным раённым і гарадскім Саветам. Такая мадэль, якая цалкам выключала непасрэдныя выбары, была, на думку Лукашэнкі, ідэальнай для Беларусі. Ён сцвярджаў, што менавіта такая сістэма ўмацуе мясцовую ўладу, дазволіць вырашыць шматлікія рэгіянальныя пытанні і дасць штуршок для эканамічнага рыўка краіны.

Акрамя таго, скасоўваліся пасялковыя, гарадскія (у гарадах раённага падпарадкавання) і раённыя (у буйных гарадах) Саветы. Заставаліся два ўзроўні мясцовай улады: базавы і абласны, пасады старшыні выканкама і старшыні савета дэпутатаў раз'ядноўваліся. Выканаўчым і распарадчым органам на тэрыторыі вобласці, горада, раёна з'ўляўся выканкам, а на тэрыторыі сельсаветаў, пасёлкаў, гарадоў раённага падпарадкавання — мясцовая адміністрацыя.

Сваё бачанне «вертыкалі» Лукашэнка падрабязна патлумачыў на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 29 верасня 1994 года. На яго думку, «исполнительная власть как самостоятельная власть государственной власти должна представлять собой сквозную вертикальную структуру, включающую в себя исполнительные, распорядительные органы как в центре, так и на местах». Па словах Лукашэнкі, у Беларусі ніколі не будзе дыктатуры, дый не павінна быць: ***«Республика живёт не в вакууме. Она окружена со всех сторон государствами, которые идут в определённом направлении».***

Праўда, кіраўнік дзяржавы не заўсёды быў аматарам «вертыкалі». За два гады да таго, 20 кастрычніка 1992 года на дзясятай сесіі Вярхоўнага Савета 12 склікання дэпутат Аляксандр Лукашэнка прапанаваў унесці ў парадак дня пытанне аб выбарнасці рэгіянальных кіраўнікоў непасрэдна мясцовым насельніцтвам, бо на месцах ***«продолжается хапужничество, коррупция, гребут так, как это не было при партократической системе».*** Тады супраць Лукашэнкі выступіў Віктар Ганчар, які заяўляў, што такая выбарнасць цалкам парушыць мясцовае кіраванне і самакіраванне. Больш таго, Ганчар выступіў не толькі за прызначэнне мясцовых кіраўнікоў, але і за тое, каб даць старшыні Савета Міністраў права ўносіць адпаведныя кандыдатуры. За прапанову Лукашэнкі прагаласавалі ажно 163 дэпутаты пры кворуме ў 174.

## «Кастрычніцкая рэвалюцыя»

Асноўныя падзеі разгарнуліся ў Вярхоўным Савеце 12 склікання 6 кастрычніка 1994 года. Для Лукашэнкі абстаноўка ўскладнялася тым, што ён прайграў першы раунд сутычкі з Вярхоўным Саветам. 30 верасня дэпутаты катэгарычна адмовілі кіраўніку краіны ў дадатковых паўнамоцтвах: выдаваць указы і распараджэнні па эканамічных пытаннях нават у абыход Канстытуцыі. Максімум, на што згадзіліся парламентарыі, — даручаць адпаведным камісіям Вярхоўнага Савета ў тэрміновым парадку разглядаць прапановы па змене і дапаўненні заканадаўства, якое рэгулюе эканамічную дзейнасць.

Зараз жа Лукашэнку на ўсю моц прыйшлося выкарыстаць свой папулісцкі талент, каб пераканаць большасць дэпутацкага корпуса. Лукашэнка даводзіў, што да яго ўлада ў краіне валялася ў брудзе, і толькі цяпер знайшоўся чалавек, які гэтую ўладу падняў. Дык чаго ж вы крычыце аб дыктатуры, пытаўся ён.

Супраць «прэзідэнцкай вертыкалі» рашуча выступіла парламенцкая апазіцыя БНФ. Яе прадстаўнік Сяргей Антончык, казаў, напрыклад, такое: ***«Так называемые реформы системы власти на Беларуси были неоднократно. Все эти реформы — цепь переливания сформировавшейся партийной элиты из одного сосуда в другой, пересаживание из одного кресла в другое».*** Адказваючы на выступленне Сяргея Антончыка, Лукашэнка заявіў: ***«О каком переливании вы говорите? Если бы пришел Позняк, то повырезал бы всех поголовно».*** На патрабаванне лідара парламенцкай апазіцыі БНФ прынесці прабачэнне, Лукашэнка здзіўлена спытаўся: ***«Я не понял, почему Зенон Станиславович так резко обратился ко мне?»***

6 кастрычніка 1994 года 221 дэпутат Вярхоўнага Савета прагаласаваў за вышэйзгаданыя папраўкі. Парламенцкая апазіцыя распаўсюдзіла заяву, у якой «прэзідэнцкая вертыкаль» расцэньвалася як вяртанне да «паўфеадалізму». Апазіцыя закінула Лукашэнку перавышэнне канстытуцыйных паўнамоцтваў і імкненне знішчыць адну з галоўных галін улады на месцах — прадстаўнічую.

Для блакавання «прэзідэнцкай вертыкалі» БНФ пайшоў на зближэнне са сваімі ранейшымі палітычнымі непрыяцелямі: 82 парламентарыі, у тым ліку з апазіцыі, падтрымалі ініцыятыву дэпутата Віктара Піскарова і звярнуліся ў Канстытуцыйны Суд, які ў лістападзе 1994 года вынес палавіністае рашэнне. Сутнасць яго зводзілася да наступнага: ліквідацыя Саветаў першаснага ўзроўню супярэчыць заканадаўству, але ў кіраўніка краіны застаецца права прызначэння кіраўнікоў мясцовай адміністрацыі.

## Першыя ластаўкі

Дык хто стаў першымі «губернатарамі», кіраўнікамі абласцей? Спачатку Лукашэнка імкнуўся быць прынцыповым і рацыянальным кіраўніком, прызначаў тых, хто працаваў раней у вобласці, добра яе ведаў.

Першымі былі «ўмацаваныя» Магілёўская, Віцебская і Гомельская вобласці. Іх адпаведнымі кіраўнікамі ў канцы лістапада 1994 года сталі Аляксандр Кулічкоў, Уладзімір Андрэйчанка і Павел Шыпук. Першыя два былі калегамі Лукашэнкі па Вярхоўным Савеце 12 склікання і вельмі «ціхімі» дэпутатамі.

У Вярхоўны Савет 12 склікання Андрэйчанка прабіўся па Верхнядзвінскай выбарчай акрузе №144 у сакавіку 1990 года. Тады ён працаваў старшынёй Верхнядзвінскага РК КПБ. Цікава, што канкурэнцыю Андрэйчанку стварыў шараговы інструктар Верхнядзвінскага райкаму партыі. Гэта сведчыць аб унікальнасці той кампаніі, калі на выбарчых участках часта змагаліся начальнік і ягоны непасрэдны падначалены. У другім туры Андрэйчанка перамог дырэктара мясцовага кааператыва «Прамень».

Кулічкоў, намеснік старшыні выканкама Магілёўскага абласнога Савета народных дэпутатаў, быў абраны ў Вярхоўны Савет Беларусі 12 склікання ад Бабруйскай-Мінскай выбарчай акругі №286. У другім туры Кулічкоў вымушаны быў змагацца са звычайным машыністам гусенічных і пнеўмаколавых кранаў Бабруйскага домабудаўнічага камбіната.

«Губернатарства» Кулічкова скончылася ў сакавіку 1999 года, калі на адной з нарадаў Лукашэнка публічна абвінаваціў яго ў фінансавых махінацыях і на вачах СМІ выгнаў з кабінета. Аднак Кулічкоў моўчкі перажыў апалу. І тады Аляксандр Рыгоравіч, у адпаведнасці са сваёй логікай «падзяляй і ўладар», зноў наблізіў да сябе Кулічкова, зрабіўшы яго сваім памочнікам, а потым — міністрам гандлю. Свой працоўны шлях Кулічкоў скончыў на пасадзе кіраўніка справамі Адміністрацыі прэзідэнта.

Андрэйчанку пашанцавала больш. Ён не толькі пратрымаўся на пасадзе старшыні аблсавета больш за ўсіх сваіх калегаў — 14 гадоў, але потым плаўна перасеў у крэсла спікера Палаты прадстаўнікоў у кастрычніку 2008 года. Лукашэнку фактычна давялося зрабіць выбар паміж Андрэйчанкам і сваім земляком, сябрам дзяцінства Канаплёвым. Уладзімір Мікалаевіч узначаліў Палату прадстаўнікоў восенню 2004 года, што сведчыла пра ўзмацненне пазіцый былога ўчастковага міліцыянера. Аднак у верасні 2007 года Канаплёў падаў у адстаўку (афіцыйна — па стане здароўя). І хаця на месца спікера зноў вярнуўся непрыкметны Вадзім Папоў (узначаліў палату ў 2000 годзе), праз год яго замяніў менавіта Андрэйчанка. Гэта сведчыла пра палітыку Лукашэнкі пазбаўляцца больш яркіх атачэнцаў (тым больш, з кім звязвалі сяброўскія ці дзіцячыя адносіны) і набліжаць да сябе менш моцных.

Таму Уладзімір Андрэйчанка кіруе ніжняй палатай парламента і сёння. Гэтаму спрыяе як абсалютная адсутнасць палітычных амбіцый і харызмы ў спікера, так і недвухсэнсоўнае становішча Палаты прадстаўнікоў, якая збольшага з'яўляецца прыдаткам выканаўчай улады і найменш рызыкоўным месцам з палітычнага і эканамічнага пункту погляду.

Нябожчык Павел Шыпук, выхадзец з дырэктарскага корпусу, адпрацаваў на пасадзе «губернатара» Гомельшчыны менш за тры гады: са студзеня 1997 года ён узначаліў Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу, гэта значыць, быў першым яго кіраўніком. Пры абмеркаванні кандыдатуры Шыпука яму казалі сапраўдныя панегірыкі кшталту таго, што вобласць страчвае, а рэспубліка набывае. Асобу Шыпука характарызуюць ягоныя ўласныя словы, якія ён сказаў пасля абрання: ***«Никаких фракций, никаких отклонений. Мнения должны быть разные для того, чтобы в споре рождалась истина, но резких отклонений влево или вправо у нас быть не должно».***

8 снежня 1994 года настала чарга Міншчыны. Канешне, у Лукашэнкі былі сумневы, каму можна даверыць самую вялікую і адначасова складаную вобласць. Аднак на гарызонце з'явіўся своеасаблівы цяжкавагавік Пётр Пётух — прэзідэнт Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вырабе тавараў народнага спажывання. Акрамя таго, у Пётуха меўся багаты вопыт партыйнай і гаспадарчай працы ў Барысаве. І дагэтуль у Сеціве можна знайсці інфармацыю пра тое, што ўзляцець наверх Пётуху дапамаглі ўсёмагутныя спецслужбы — у прыватнасці, прафесійны чэкіст Фарыд Канцараў. Гэты ўраджэнец Усходне-Казахстанскай вобласці шмат парабіў на розных пасадах у КДБ СССР, пакуль у канцы 1980-х не апынуўся начальнікам аддзела ваеннай контрразведкі 7-й танкавай арміі, штаб якой дыслакаваўся ў Барысаве. Там залётны азіят вельмі пасябраваў з Пётухам, што дапамагло апошняму ў будучым. Лукашэнка паверыў чэкістам, бо некаторыя з іх, у тым ліку і Канцараў, дапамаглі Лукашэнку падчас першай прэзідэнцкай кампаніі.

Аднак высокі ўзлёт пры Лукашэнку фактычна азначае балючае падзенне. На сваёй пасадзе Пётух прапрацаваў чатыры гады пры амаль няспыннай крытыцы кіраўніка дзяржавы.

Пасля Лукашэнка ўзяўся за заходнія вобласці. 9 снежня 1994 года на пасаду кіраўніка Брэстчыны быў прызначаны Уладзімір Заламай, які пачаў сваю кар'еру на Брэсцкім электрамеханічным заводзе. Затым Заламай паступова рос па кар'ернай лесвіцы: сакратар Брэсцкага абкама КПБ па прамысловасці, намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама.

Летам 1990 года старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч паклікаў Заламая да сябе ў намеснікі. Абмеркаванне кандыдатуры Заламая на сесіі Вярхоўнага Савета 12 склікання 25 ліпеня 1990 года праходзіла ў абстаноўцы вострых дэбатаў. Дэпутат Лукашэнка, які задаў шмат пытанняў брэсцкаму вылучэнцу, казаў, што ***«местные власти стерли торговлю с лица земли, вводят торговые ограничительные меры, из-за чего житель Шклова не сможет купить в Орше даже булку хлеба».***

Заламай хоць і быў зацверджаны, аднак пратрымаўся крыху больш за два гады. У сакавіку 1992 года яго перамясцілі на экзатычную пасаду: дзяржаўнага сакратара па справах СНД, а ў красавіку — членам Прэзідыума Савета Міністраў. Аднак у разгар лета 1993 года Заламай атрымаў пасаду намесніка старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і пры гэтым заставаўся дзяржсакратаром па справах СНД. Пасля перамогі на першых прэзідэнцкіх выбарах Лукашэнка даволі лаяльна абышоўся з Заламаем — у адрозненне ад многіх іншых кебічаўскіх атачэнцаў. У жніўні 1994 года прызначыў яго міністрам па справах СНД. Аднак у недарэч-

# і смерць ініцыятывы


Уладзімір Ярмошын


Уладзімір Андрэйчанка і старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына


Павел Шыпук


Уладзімір Заламай


Пётр Пётух


Аляксандр Кулічкоў


Аляксандр Дубко лічыў сябе сапраўдным аграрыем


«Шэры кардынал» Фарыд Канцараў

насці такой пасады пры існаванні Міністэрства замежных спраў не сумняваўся ніхто, таму, калі наспела неабходнасць у кіраўніку Брэсцкай вобласці, Лукашэнка без ваганняў накіраваў туды Заламая. Напэўна, на Лукашэнку ўплыў аказаў Віктар Шэйман, дзяржсакратар Савета Бяспекі, які прыйшоў наверх менавіта з Брэста.

Праблемы ў Заламая пачаліся ўвосень 1996 года, калі набліжаўся сумнавядомы рэферэндум па зацвярджэнні новай рэдакцыі Канстытуцыі, што давала кіраўніку краіны амаль неабсяжныя паўнамоцтвы. Пры наведванні Брэстчыны Лукашэнка публічна крытыкаваў Заламая за сельскагаспадарчыя праблемы вобласці («короче, уборку ты провалил») і, не хаваючыся, гразіў: ***«За такие дела раньше надевали наручники и не спрашивали, кто твои родители»***. Тым не менш, Заламай прапрацаваў яшчэ чатыры гады. У 2000 годзе, перад другой прэзідэнцкай кампаніяй, Лукашэнка адкамандзіраваў на Брэстчыну вернага Васіля Далгалёва.

9 снежня 1994 года новым гаспадаром Гродзенскай вобласці стаў аграрнік, старшыня сельскагаспадарчага прадпрыемства «Прагрэс» Аляксандр Дубко, які некалькі месяцаў таму змагаўся за прэзідэнцкае крэсла. Падчас выбараў народных дэпутатаў СССР у 1989 годзе Дубко атрымаў мандат і ў Вярхоўным Савеце СССР увайшоў разам з Яфрэмам Сакаловым у кансерватыўную групу, якая выступала супраць беларускіх дэмакратаў: Станіслава Шушкевіча, Аляксандра Дабравольскага і іншых.

У першым інтэрв'ю ў якасці губернатара Дубко прызнаўся, што перад тым, як даць згоду на прызначэнне, прагаварыў з Лукашэнкам усю ноч.

Дубко адкрыта не хаваў сваіх пракамуністычных поглядаў і лічыў, што адбор кіраўнічых кадраў пры Саветах быў нібыта бездакорным.

Шчыра кажучы, Лукашэнка не любіў Гродзеншчыну, асацыюючы яе з аплотам БНФ. Да таго ж гродзенцы адплацілі кіраўніку дзяржавы, як ён лічыў, чорнай манетай. Справа ў тым, што падчас першай прэзідэнцкай кампаніі Лукашэнка шмат высілкаў зрабіў менавіта ў адносінах да Гродзеншчыны. Вясной і летам 1994 года ён некалькі разоў наведаў Гродна, а ў адным з выступаў назваў урад Кебіча «шестидесятилетним хламом и старьём». Менавіта ў Гродне ўзнік так званы саюз барацьбы з карупцыяй і злачыннасцю «Очищение» пад кіраўніцтвам адстаўнога палкоўніка Сяргея Посахава. «Очищение» пачало фанатычна збіраць подпісы за Лукашэнку ў якасці кандыдата ў прэзідэнты.

Са зборам подпісаў актыўна дапамагаў дэпутат ад Гродзеншчыны, дырэктар Свіслацкага адкормчага пункту Анатоль Кузьма. У выніку Гродзенская вобласць стала па колькасці сабраных подпісаў другой пасля Магілёўшчыны (каля 70 тысяч; уласна Магілёў — каля 26 тысяч), абагнаўшы Мінск (каля 22 тысяч). Напрыклад, толькі ў Гродне, па звестках газеты «Свабода», было сабрана 16 835 подпісаў, а ў адным Свіслацкім раёне — звыш 5 тысяч.

Аднак па выніках першага тура (23 чэрвеня 1994 года) у Гродзенскай вобласці Лукашэнка набраў толькі 35,9%, што паставіла рэгіён на апошняе месца. І хаця Лукашэнка апярэдзіў астатніх канкурэнтаў, улічваючы сілы, укладзеныя ў Гродзеншчыну, вынік тут мог быць больш істотным.

Адмоўнае стаўленне Лукашэнкі да Гродзеншчыны было звязана і з высокім міліцэйскім кіраўніком Уладзімірам Данько, які напачатку 1990-х гадоў працаваў начальнікам УУС Гродзенскага аблвыканкама, а ў лютым 1994 года стаў міністрам унутраных спраў. Менавіта Данько, быў упэўнены Лукашэнка, 28 чэрвеня 1994 года нацкаваў на яго і яго паплечнікаў (Іван Ціцянкоў, Віктар Кучынскі і Леанід Сініцын) міліцэйскую ахову, у выніку чаго ля Дома ўрада, куды хацеў увайсці Лукашэнка, адбылася сапраўдная бойка: ***«Кандидату в президенты разорвали пиджак, испачкали брюки и нанесли телесные повреждения в области кистей рук»***.

Пры прызначэнні ў Гродзенскай вобласці ў Лукашэнкі існавала і іншая праблема: новы кіраўнік Сямён Домаш, які быў абраны на пасаду старшыні выканкама абласнога Савета ў кастрычніку 1993 года. І вось праз год трэба зноў было апрацоўваць мясцовую эліту для прыхода новага гаспадара (і да сёння сцвярджаецца, што імёны будучых прэзідэнцкіх абласных васалаў да часу «Х» хаваліся ад дэпутатаў і грамадскасці). Роля тарана была вызначана менавіта Дубко, які з ёй справіўся бліскуча.

Аднак у лютым 1995 года ў «прэзідэнцкай вертыкалі» адбыўся першы збой. Вышэйзгаданы Кузьма накіраваў у прэзідэнцкую адміністрацыю скаргу. Па сутнасці, ён пратэставаў супраць зацвярджэння на пасаду старшыні выканаўчага камітэта Свіслацкага раённага Савета народных дэпутатаў чалавека, ***«развалившего колхоз, потерявшего совесть, честь, скромность, уважение людей, погрязшего в коррупции и злоупотреблении служебным положением»***. Непасрэдную адказнасць за гэтае зацвярджэнне, паводле Кузьмы, нёс старшыня Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Аляксандр Дубко, ***«цинично обманувший всех»***. Бо ніхто іншы, як Анатоль Фаміч 6 кастрычніка 1994 года настойваў на неабходнасці «прэзідэнцкай вертыкалі», называючы сітуацыю, якая склалася на месцах, «бардаком».

Аднак Дубко да сваёй смерці ў лютым 2001 года верай і праўдай служыў Лукашэнку, пільна сачыў за Гродзеншчынай, «добра» падрыхтаваў яе да рэферэндуму 1996 года.

10 студзеня 1995 года, нарэшце, вырашылася пытанне з Мінскам. Пасля прыходу Лукашэнкі да ўлады было зразумела, што ён не спрацуецца з дзейным «мэрам» Аляксандрам Герасіменкам. Яшчэ будучы старшынёй парламенцкай «антыкарупцыйнай» камісіі, Лукашэнка абвінавачваў гарадское кіраўніцтва, што яно з парушэннем заканадаўства передала камерцыйным структурам пяціпавярховы аварыйны дом і папулярнае сярод тагачаснага сталічнага бамонду кафэ «Реченька» па праспекце Машэрава. Герасіменка пра СМІ публічна запярэчыў Лукашэнку.

Новым граданачальнікам стаў першы намеснік Герасіменкі Ярмошын, які кіраваў сталіцай да лютага 2000 года. Асабіста для Ярмошына, цяжкай, канешне, стала трагічная пагібель дзясяткаў людзей на Нямізе 30 мая 1999 года. Недзяржаўныя СМІ і апазіцыя, якія назвалі масавую цісканіну беларускай Хадынкай, абвінавацілі перш за ўсё гарадскія ўлады. Ярмошын падаў у адстаўку, аднак Лукашэнка яе не прыняў: кіраўнік краіны памятаў, якую паслугу яму аказаў Ярмошын у жніўні 1995 года. Тады жорстка была падаўлена забастоўка машыністаў метрапалітэна. Сам Ярмошын адзначыўся тым, што асабіста ўручаў пасведчанні штрэйкбрэйхерам — новаспечаным расійскім машыністам, якія не мелі сур'ёзнай падрыхтоўкі для працы ў беларускай сталічнай падземцы.

### Спроба зламаць

Спроба зламаць «прэзідэнцкую вертыкаль» мела месца падчас рэферэндуму 24 лістапада 1996 года. 6 верасня 1996 года дэпутаты Вярхоўнага Савета 13 склікання зацвердзілі пастанову аб правядзенні рэферэндуму. Сярод пытанняў было тое, якое ініцыявалі парламентарыі: «Ці выступаеце вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады абіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?». Прэзідэнцкі бок пачаў актыўную агітацыю супраць гэтага пытання.

Так, у «Народнай газеце», якую ўжо кантралявала прэзідэнцкая адміністрацыя, у нумары за 12 лістапада 1996 года з'явіўся артыкул аўтара па прозвішчы Вухаў пад назвай «Утверждение коллективной безответственности?». У артыкуле гаварылася, што падступства пытання апазіцыйных парламентарыяў аб выбарнасці кіраўнікоў мясцовай улады нібыта заключаецца ў тым, каб ***«разрушить согласованность действий президентской вертикали»***. Пакуль кіраўнік дзяржавы прызначае губернатараў, сцвярджаў аўтар артыкула, сістэма выканаўчай улады застаецца ўнутрана адзінай і трывалай, бо яе аснову складаюць аднадумцы. А выбарнасць страшная тым, што пры ёй ва ўладу прыйдуць людзі розных поглядаў, і яна разбурыцца.

Каб разбурыць вертыкаль, па афіцыйных звестках, не хапіла патрэбнай колькасці галасоў. З 6 181 463 чалавек, што прынялі ўдзел у рэферэндуме, пытанне падтрымалі 1 739 178, альбо 28,14%.

«Вертыкаль» існуе і сёння. Фактычна яна ўяўляе сабой сістэму васальна-кліентыльных адносінаў, пабудаваных не на глебе заканадаўства і нарматыўных прававых актаў, а на абсалютнай палітычнай лаяльнасці ніжэйстаячага чыноўніка вышэйстаячаму. Плюс вычарпаная ўжо сістэма адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзела, калі ніжэйшыя адзінкі цалкам фінансава залежныя ад вобласці. Ва ўмовах эканамічнага крызісу гэта яшчэ больш абвастрае праблему галечы і беспрацоўя — не толькі ў малых гарадах і сельскай мясцовасці, але ў сярэдніх населеных пунктах з вытворчасцю і прамысловасцю.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. Гітлер ледзь не кінуў Еву Браўн



Іспанская прэса сцвярджае, што ў кастрычніку 1941-га Берлін і Мадрыд усур'ёз абмяркоўвалі стварэнне першай у гісторыі «фашысцкай дынастыі». Планавалася заключыць шлюб паміж Адольфам Гітлерам і Пілар Прыма дэ Рывера — сястрой Хасэ Антоніё Прыма дэ Рывера — іспанскага дыктатара, якога лічаць заснавальнікам іспанскага фашызму. Пілар, дарэчы цалкам падзяляла погляды брата і нават узначальвала жаночую секцыю ў створанай ім партыі «Фаланга». Як піша газета «Publico», ідэя шлюбу Адольфа і Пілар прыйшла ў галаву зяцю Франка, які быў вялікім фанатам нацысцкай мадэлі. Ён даводзіў дыктатару, што шлюб Пілар і Адольфа будзе сімвалам адзінства дзвюх дзяржаў. Спачатку ў Берліне пагадзіліся абмяркаваць арыгінальную ідэю, аднак у выніку працэс забуксаваў. Гісторыкі лічаць, што прычына палягала ў нявздольнасці Гітлера мець дзяцей — следства ранення падчас Першай сусветнай вайны. Без дзяцей шлюб такога маштабу не меў сэнсу. У выніку ад ідэі адмовіліся. Гітлер застаўся з Евай Браўн, якую забіў у маі 1945-га перад уласным суіцыдам. Што тычыцца Пілар, то патэнцыйная нявеста Гітлера так і не выйшла замуж ды памерла ў 1991 годзе.

**Паводле іспанскай прэсы**

### КЫРГЫЗСТАН. Легалізуйма тэнгрыянства!

У Кыргызстане зноў пачалі казаць пра легалізацыю тэнгрыянства. Тэнгрыянства — рэлігія качэўнікаў еўразійскіх стэпаў, у якой цэнтральнае месца займае культ неба. Пасля прыходу ісламу яна была фармальна забароненая, аднак захавалася ў побыце. Гаворкі пра рэгістрацыю адпаведнай царквы трываюць ужо дзесяць гадоў, аднак усе традыцыйныя канфесіі супраць легалізацыі паганцаў. Дапамагае праціўнікам тэнгрыянства і мясцовая кінаіндустрыя. У сярэднеазіяцкіх фільмах жахаў папулярная тэма, калі героі з дапамогай тэнгрыянства выклікаюць розных пачвараў. Так ці інакш, на мінулым тыдні сябры адной з грамадскіх арганізацый у Бішкеку зноў заявілі пра неабходнасць вяртання кыргызаў да старажытнай рэлігіі. Адлігу ў пытанні легалізацыі паганства звязваюць таксама з перспектывамі турызму — асабліва з Венгрыі і Балгарыі. Паколькі венгры і балгары прыйшлі ў Еўропу з Азіі, усё больш людзей у гэтых краінах цікавіцца традыцыямі прашчураў — і ў тым ліку іх рэлігійнымі вераваннямі.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Прыдумай грошы сам

Банк Англіі пайшоў на цікавы эксперымент: прапанаваў брытанцам самім выбраць асобу, якая павінна ўпрыгожыць банкноту ў 50 фунтаў. Пакуль у інтэрнэт-галасаванні лідзіруюць прэм'ерка Маргарэт Тэтчар, рок-зорка Дэвід Боўі і прынцэса Дзіяна. У спіну ім дыхае літаратарка Агата Крысці. Не абышлося без палітыкі. Адзін з дэпутатаў-лейбарыстаў заклікаў галасаваць за кандыдатуру Мэры Джэйн Сікол, якая жыла ў другой палове XIX стагоддзя. Тая, маўляў, заслужыла права быць на банкноце праз свой подзвіг у часы Крымскай вайны. Кабета заснавала шпіталь, дзе дапамагала жаўнерам. А паколькі Мэры паходзіла з калоній і была чарнаскурай, то яе выява на купюры будзе ў дадатак спрыяць міжрасавай гармоніі ў грамадстве. Ці здолее кандыдатура Мэры Джэйн Сікол абагнаць Тэтчар і Боўі, цяжка сказаць. Аднак у любым выпадку відавочна, што пераможа каралева. Яе Вялікасць па законе выяўленая на кожнай банкноце.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Колькі трэба дзён незалежнасці?

Група дэпутатаў украінскіх правых партый падала праект закона, якім прапануе перанесці свята незалежнасці на 22 студзеня. У гэты дзень у 1918 годзе кіраўніцтва Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР) абвясціла Універсал, паводле якога аднаўлялася дзяржаўнасць украінскай нацыі. Менавіта гэтую дату, упэўненыя ініцыятары законапраекту, і варта называць сапраўдным днём незалежнасці. Пры гэтым адмаўляцца ад 24 жніўня, у які цяпер святкуецца Дзень незалежнасці, яны таксама не збіраюцца, прапануючы перайменаваць яго ў «Дзень аднаўлення дзяржаўнасці». Ідэя не выклікала захаплення, паколькі ў выпадку паўстання новага свята студзень ператворыцца ў парад святаў: да двух выхадных — 1 і 7 студзеня — дадасца яшчэ і нерабочы дзень 22 студзеня. Калі ж улічыць, што святкаваць ва Украіне пачынаюць з 25 снежня, паўнавартасная праца ў краіне спыніцца на месяц. Зрэшты, нават сярод нацыяналістаў хапае праціўнікаў рэформы святочнага календара, паколькі «ваенны парад у гонар незалежнасці ўзімку не будзе выглядаць вельмі прыгожа».

**Паводле ўкраінскай прэсы**




Фота www.euronews.com

# Абяцаем крыжовы паход!

Алег НОВІКАЎ

**На еўрапейскую арэну збіраюцца выйсці іспанскія карлісты.**

Ледзь не да восені мінулага года іспанская палітычная сцэна выглядала белай воранай на фоне краін-суседак па ЕС. Нягледзячы на моцныя традыцыі франкізму і значную ролю Касцёла, у краіне за ўсе часы дэмакратыі так і не паўстаў уплывовы правы рух. Пакуль французскія або італьянскія правыя кідалі выклік сістэме, іх іспанскія аднадумцы тусаваліся пад дахам Народнай партыі (Partido Popular — PP), якая навязвала ім кансерватыўную палітычную павестку.

Канфігурацыя палітсілаў на іспанскім правым флангу змянілася, калі з маргінэзу выйшла партыя Vox. Гэта партыя паўстала яшчэ ў 2013 годзе на базе групы сябраў PP, якім не падабалася «мяккая» палітыка ўраду адносна баскскіх тэрарыстаў з ЕТА, наяўнасць у краіне нацыянальных аўтаномій плюс існуючая фіскальная схема. Схізму ў шэрагах «народнікаў» і нараджэнне Vox у прэсе тады амаль не заўважылі.

Ператварыцца ў партыю мейнстрыму Vox дапамог каталонскі крызіс. Шматлікім іспанцам не падабалася тое, што тагачасны прэм'ер Марыяна Рахой шукае дыялог з Барселонай. Запыт на больш жорсткую лінію задаволіла партыя Vox, праграма якой патрабуе ўвогуле скасаваць усе нацыянальна-аўтаномныя суб'екты. На хвалі шавінізму літаральна за тыдзень колькасць сябраў партыі вырасла на 20 працэнтаў, а сама структура стала прапісалася ў другім дывізіёне іспанскай палітыкі. Паводле сацыёлагаў, места ў будучым парламенце ёй практычна гарантаванае.

Зацікавілася праектам Vox і секта карлістаў — прыхільнікаў аднаго з кансерватыўных накірункаў, якія вядуць радавод ад часоў так званых Карлісцкіх войнаў. У тых войнах, што тройчы выбухалі ў Іспаніі ў XIX стагоддзі, змагаліся лібералы і тыя самыя карлісты, якія абараняллі рэшткі феадальнай сістэмы пад соусам патрабавання зрабіць каралём прадстаўніка адной з ліній роду Бурбонаў.

Нягледзячы на тое, што карлісты прайгралі ўсе тры вайны, іх рух захаваўся да гэтага часу. Напэўна таму, што ў грамадстве не зніклі крыніцы, з якіх карлісты чэрпалі свае сілы: уплыў царквы, традыцыйныя імкненні асобных правінцый да аўтаноміі, моцныя антымасонскія настроі, народны культ герояў карлісцкіх войнаў і гэтак далей.

Да апошняга часу ўсё гэта нагадвала гульні рэканструктараў. На мінулым тыдні адбыўся з'езд вядучага карлісцкага аб'яднання — Саюзу традыцыйных карлістаў (CTC), у якім удзельнікі выступілі за тактычную падтрымку Vox. Па словах правадыроў кралістаў, партыя Vox з'яўляецца сёння «легальнай формай барацьбы супраць масонскай акупацыі, і ёй трэба надаваць падтрымку».

На думку каментатараў, пастановы кангрэсу дазваляюць

**Карлісты прынцыпова выступаюць за ліквідацыю ўсіх партый і пераход на мадэль абсалютнай манархіі. Ім не падабаецца дазвол на скасаванне шлюбаў, яны прапануюць забараніць фемінізм**

запусціць працэс фармавання адзінага ўльтракансерватыўнага блоку на хуткія выбары ў Еўрапарламент. Дарэчы, гэтыя выбары, што адбудуцца ў наступную вясну, ужо зараз называюць фатальнымі для лёсу ЕС. Ёсць непакой, што еўрафобы атрымаюць у новым парламенце больш за 30 працэнтаў мандатаў. Гэта гарантуе параліч механізмаў аб'яднання.

Жывым сімвалам кансерватыўнага павароту еўрапейскай думкі можа быць якраз з'яўленне ў Брусэлі дэпутатаў-карлістаў, якія выкарыстоўваюць дыскурс, што панаваў у Еўропе, напэўна, напачатку XIX стагоддзя.

Карлісты прынцыпова выступаюць за ліквідацыю ўсіх партый і пераход на мадэль фактычна абсалютнай манархіі. Ім не падабаецца дазвол на скасаванне шлюбаў, паколькі гэта, маўляў, фізічна кепска для арганізму. Прапануецца забараніць фемінізм як форму маніпуляцыі мужчынамі з боку кабет-прайдзісветак. Асноўны прынцып рашэння ўсіх праблем — вяртанне старажытных парадкаў. Напрыклад, лакалізаваць каталонскі сепаратызм прапануецца за кошт вяртання краю каралеўскіх прывілеяў, якія былі скасаваныя ў 1833 годзе. У выпадку перамогі карлісты абяцаюць адразу абвясціць крыжовы паход «за рэактывацыю аўтэнтычнага ладу жыцця». Канчатковая мэта акцыі — падпарадкаваць дзяржаву суверэнітэту Хрыста: маральныя стандарты, на грунце якіх павінны складацца ўсе законы.

Наўрад ці лідары Vox дазволяць рэйдарскі захоп партыі з боку іспанскіх талібаў. Аднак ёсць яшчэ такая рэч, як самаідэнтычнасць шараговых актывістаў, якая ў выніку фармуе аблічча партыі. Сёння яна будуецца ў тым ліку на міфах карлістаў. Магчыма таму на мітынгу Vox 8 кастрычніка праварадыкальныя выгукі натоўпу арганізатары намагаліся заглушыць хітамі іспанскай эстрады 1960-х гадоў і дэвізам «Зробім Іспанію моцнай зноў!».

Між тым, самі карлісты яўна настроеныя на вяртанне ў вялікую палітыку. Як піша блізкае да іх выданне «Monarquia», днямі яны правялі кансультацыі з прадстаўніком Бурбонаў, якога збіраюцца пасадзіць на іспанскі трон. Паводле ўдзельнікаў перамоў, падчас сустрэчы былі абмеркаваныя дэталі, якія, калі на гэта, натуральна, будзе Божая Воля, трэба канкрэтызаваць у адпаведны час.

# Як вярнуць расіянам «яць»

Алег НОВІКАЎ

**Сотую гадавіну бальшавіцкага дэкрэта аб новай арфаграфіі расійскае патрыятычнае грамадства сустрэла заклікамі вярнуць старыя правілы.**

«Du iu spik inglish?» — менавіта так павінна была б пісацца па-англійску фраза «Do you speak English» («Ці размаўляеце вы па-англійску?»), калі б у Брытаніі адбылося тое, што сто гадоў таму здарылася ў Расіі. Тады Саўнаркам вырашыў спрасціць правапіс з мэтай ліквідацыі непісьменнасці. Рэформа палягала ў змене шэрагу правіл правапісу, што найбольш прыкметным чынам праявілася праз выключэнне некалькіх літар — Ѣ («яць»), Ѳ («фіта»), І («і дзесяцярычнае»).

Прычым дзейнічалі рэфарматары па ўсіх канонах рэвалюцыйнага часу. Адразу пасля публікацыі пастановы ў друкарні рушылі рэвалюцыйныя матросы, каб канфіскаваць «контррэвалюцыйныя літары». Існуе анекдот, што такі валюнтарызм згуляў з бальшавікамі жарт. Адначасова ў друкарнях на ўсялякі выпадак была канфіскаваная і літара «Ъ», якую не забаранілі, а толькі абмежавалі ў выкарыстанні. Дэфіцыт той літары ў друкарнях аказаўся такі вялікі, то яшчэ доўгія гады ў Савецкім Саюзе даводзілася замест цвёрдага знака друкаваць апостраф.

Акрамя неабходнасці спрасціць правапіс, ухіл у агітацыі бальшавікоў рабіўся на пытанні эканоміі. Распрацоўшчыкі абяцалі за кошт ліквідацыі літары «яць» і цвёрдага знаку, які часта пісалі напрыканцы слоў, скарацiць спажыванне паперы на 3,5 працэнты. Дарэчы, сваю ролю ў легітымацыі рэформы адыгралі і беларуская ды ўкраінская мовы, арфаграфічныя правілы якіх ужо былі сфармаваныя ў пачатку ХХ стагоддзя і замацоўвалі фанетычны прынцып правапісу. На вопыт і прыклад суседніх славянскіх народаў таксама звярталася ўвага.

Нягледзячы на ўсе пералічаныя аргументы, у Дэкрэта ад 10 кастрычніка заўсёды было шмат крытыкаў. Мабілізаваліся яны і напярэдадні цяперашняй гадавіны рэформы. Асноўны тэзіс крытыкаў — дзеянні рэвалюцыйнай улады былі прадыктаваныя патрэбамі ідэалогіі. Бальшавікам трэба было дэманстратыўна замацаваць разрыў з ранейшымі парадкамі. Ускосная задача палягала ў тым, каб адарваць грамадзянскі правапіс ад царкоўнаславянскага, дзе кожная літара, быццам, мае сакральны падтэкст.

Так, літара Ѳ — «фіта», маўляў, не спадабалася Леніну і Троцкаму праз тое, што з яе пачыналіся ўсе самыя важныя багаслоўскія тэрміны, напрыклад, «Тэас» — Бог. А літару Ѣ («яць») прызналі крамольнай, паколькі яна нагадвала крыж.

Як тут ні прыгадаць тое, што на Урале знаходзіцца храм літары «Ё». Па тэорыі арганізатара музея-храма, літара «Ё» — гэта ні што іншае, як «канал зносін з космасам». Маўляў, невыпадкова практычна ўсе самыя эмацыйныя рускія словы пачынаюцца менавіта на гэтую літару.

> **Ролю ў легітымацыі рэформы адыгралі і беларуская ды ўкраінская мовы, арфаграфічныя правілы якіх ужо былі сфармаваныя і замацоўвалі фанетычны прынцып правапісу**

Усе гэтыя канструкцыі разбіваюцца праз той факт, што яшчэ ў 1904 годзе пры Імперскай Акадэміі навук была створана камісія, перад якой і была пастаўленая задача спрашчэння пісьма (перш за ўсё — у інтэрэсах школы). У выніку складзены акадэмікамі праект рэформы (за выключэннем толькі аднаго пункта) рэалізавалі бальшавікі. Не кажучы пра тое, што рэформа 1918 года — гэта наогул другая буйная рэформа рускага правапісу. Першая была праведзена Пятром Першым. Тады змяніўся дызайн літар, склад алфавіту, былі зацверджаны еўрапейскія (арабскія) лічбы замест літарных пазначэнняў лікаў і гэтак далей. Ужыванне старых правілаў было абмежаванае сферай царкоўнай літаратуры.

Акрамя настальгіі па дарэвалюцыйных часах, гучаць у Расіі і заклікі адмяніць рэформу 1918 года. Увогуле, яшчэ ў 2012-м была створана ініцыятыўная група за адраджэнне старой арфаграфіі. Аднак тады народ рэагаваў на ідэю вельмі млява. Сёння, калі Крэмль актыўна разыгрывае патрыятычную карту, галасы аматараў дарэформавага правапісу сталі значна гучнейшымі.

Праўда, большасць аматараў старасветчыны пагаджаецца, што дзяржава наўрад ці пойдзе на рэформу, фінансаваць якую трэба за кошт падаткаплатнікаў. Хутчэй, наадварот, аматараў літар «яць» і «фіта» запішуць у клуб замежных агентаў, якія намагаюцца «разгайдаць лодку».

З іншага боку, фліртз патрыётамі працягнецца. Напрыклад, адказнасці (ні адміністрацыйнай, ні тым больш крымінальнай) за выкарыстанне дарэформавага правапісу ў Расіі пакуль не прадугледжаная. У сувязі з гэтым асобным энтузіястам нават прыйшла ў галаву думка паспрабаваць «гаварыць» з сучаснай дзяржавай на той мове, на якой размаўлялі сто гадоў таму. Прапануецца нешта накшталт флэшмобу. Яго ўдзельнікі будуць падаваць у дзяржаўныя органы заявы, якія складзеныя паводле старых правілаў. Разлік робіцца на тое, што чыноўнікі ўсё роўна будуць прымаць такія дакументы, каб пазбегнуць скандалу. Магчыма, калісьці і самі яны паступова вывучаць дарэформавы правапіс.

Пры гэтым у цяперашніх дэбатах прагучала незвычайная думка — у Расіі больш шанцаў вярнуцца да правапісу, які існаваў да Пятра Першага. Усё праз экспансію РПЦ на адукацыйны сектар і спробы навязаць школам свае прадметы. Напэўна, будзе сярод тых прадметаў і курс царкоўнаславянскай мовы. У выніку правілы царкоўнаславянскай мовы дзеці будуць больш-менш ведаць, што і створыць магчымую базу для рэвізіі рэформы 1918-га.




Фота www.sbras.info

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Жаэнія Вапічана

Бразільскі палітык трошкі ўзняла настрой прагрэсіўнай часткі мясцовага грамадства, якое знаходзіцца ў шоку ад поспеху правапапуліста Жаіра Балсанару ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў.

Нагадаем, Балсанару, які сімпатызуе дыктатарам, атрымаў 46 працэнтаў і стаў фаварытам другога туру выбараў. Між тым паралельна ў краіне праходзяць выбары ў парламент, на якіх па сваёй акрузе перамагла Вапічана. Дзякуючы перамозе яна стала першай дэпутаткай-індзейцам за ўсю гісторыю краіны.

Перамогу Вапічана можна лічыць амаль фантастычнай з улікам таго, што бюджэт яе выбарчай кампаніі складаў усяго 500 еўра. Менавіта столькі ахвяравалі індзейцы, які падтрымлівалі кандыдатку. Грошай Вапічана ў выніку хапіла.

Але наўрад ці яе дэпутацтва будзе лёгкім. Асабліва ў выпадку перамогі Балсанару, які кажа, што падчас яго прэзідэнцкай кадэнцыі дзяржава прыпыніць практыку прызнання за карэнным насельніцтвам Амазоніі правоў на зямлю, дзе яны жывуць. Калі ў краіне захаваецца адносна стабільны дэмакратычны рэжым, новаабраная дэпутатка мае намер заняцца абаронай правоў і гонару індзейцаў. У тым ліку разабрацца са СМІ, якія любяць ужываюць слова «індзеец» як сінонім жабрака або дробнага злодзея.

### Андрэа Налес



Лідарка нямецкай партыі сацыял-дэмакратаў (SPD) перахапіла ў Ангелы Меркель тытул самага няўдалага палітыка. На зямельных выбарах у Баварыі эсдэкі атрымалі ўсяго каля 10 працэнтаў.

Гэта самы нізкі вынік «ружовых» на рэгіянальных выбарах за ўсе часы. Але значна горш тое, што пацвердзілася тэндэнцыя дэградацыі партыі на агульнагерманскім узроўні. Не трэба быць прарокам, каб прадказаць ужо магчымы сыход найстарэйшай партыі Германіі з яе нязменнай пазіцыі адной з дзвюх галоўных партый ФРГ на трэцяе, а тое і на чацвёртае месца. Гэта значыць, перад сацыял-дэмакратамі цяпер стаіць пытанне не ўлады, а палітычнага выжывання.

Параза ў Баварыі можа справакаваць крызіс у шэрагах SPD. Шмат аднапартыйцаў Налес заклікаюць да выхаду з кааліцыі з кансерватарамі Ангелы Меркель. Развал кааліцыі практычна аўтаматам прывядзе да датэрміновых выбараў. Праўда, ёсць яшчэ адзін варыянт: нічога не рабіць і чакаць хуткіх выбараў у зямлі Хесен, дзе эсдэкі дакладна атрымаюць другое месца. Поспех дазволіць забыць пра баварскую катастрофу.

Але нават калі Налес і здолее захаваць удзел партыі ў кааліцыі, то ўдар па Меркель можа быць нанесены з другога боку — ад баварцаў. Баварскі Хрысціянска-сацыяльны саюз таксама шмат страціў на выбарах і можа зрабіць крайнім за свой правал усё тую ж канцлерку.



### Іраклій Кабахідзэ

Кіраўнік парламента Грузіі, большасць у якім складае партыя «Грузінская мара», пасварыўся з жыхарамі Кутаісі, дзе з 2012 года засядае парламент.

У Кутаісі парламент пераехаў па ініцыятыве тагачаснага прэзідэнта Міхаіла Саакашвілі, які хацеў падняць статус другога горада ў краіне і стварыць тут дадатковыя працоўныя месцы. Прадстаўнікі «Грузінскай мары», як толькі прыйшлі да ўлады, адразу заявілі пра намер вярнуць заканадаўчы орган у Тбілісі. Тым больш, што стары будынак парламента ў Тбілісі адрамантавалі.

Аднак супраць пераезду выступаюць у Кутаісі, дзе зараз праходзяць акцыі пратэсту. «Ануляванне статусу парламенцкага горада для Кутаісі азначае, што горад перастане развівацца. Калі гэта адбудзецца, большая частка насельніцтва Кутаісі пакіне горад і пераселіцца ў сталіцу, што стане вялікай праблемай і для Тбілісі», — кажа адзін з лідараў пратэстаў, якія падтрымлівае апазіцыя.

Узгадала апазіцыя і тое, што будынак парламента ў сталіцы пабудаваны ў 1930-х гадах на месцы знішчанага бальшавікамі праваслаўнага храма. У выпадку, калі дэпутаты адмовяцца змяняць сваю пастанову, удзельнікі акцыі ў Кутаісі абяцаюць больш радыкальныя пратэсты.

Застаецца дадаць, што ў Грузіі шмат тых, хто прапануе забраць у Тбілісі тытул сталіцы. Самая экзатычная прапанова — сімвалічна перанесці сталіцу ў Сухумі. Аматары ідэі сцвярджаюць, што гэта стане своеасаблівым адказам на расійскую анексію Абхазіі.

19 кастрычніка 2018 | № 38 (601) Новы час

# Вечны «мытар»:
## Ад нямецкай управы да Жыровіцкай семінарыі



Алесь КІРКЕВІЧ

**Ці можна адслужыць судовым выканаўцам пры паляках, чыноўнікам гарадской Управы пры немцах, а ўрэшце выкладаць Канстытуцыю СССР... праваслаўным семінарыстам у Жыровічах? Можна. Пра гэта сведчыць незвычайны лёс гродзенца Мікалая Місюка.**

Мы пісалі пра загадкавы жыццёвы шлях Аўгусціна Судаплатава («Новы час» №33), які з савецкага настаўніка і франтавіка ператварыўся ў аднаго з топавых функцыянераў РПЦ МП у паваенны час. Сёння наш герой — значна больш сціплы персанаж, але ад таго не менш цікавы. Гэта чыноўнік, які служыў усім уладам, што пабывалі на Заходняй Беларусі ў XX стагоддзі ды ўрэшце апынуўся, як і Судаплатаў, у апараце праваслаўнай царквы.

### «Мытар» пры Польшчы

Мікалай Філіпавіч Місюк нарадзіўся ў 1897 годзе ў Беластоку ў сям'і чыгуначніка. На 1915 год яго бацька быў галоўным кандуктарам станцыі Беласток Паўночна-Заходніх чыгуначных шляхоў. Улетку 1915-га маці з дзецьмі была эвакуяваная ўглыб Расіі. Сам жа Мікалай Місюк у 1917-м служыў у Гатчыне ў адным з расійскіх палкоў альбо ў вайсковай вучэльні. Там ён і сустрэў падзеі рэвалюцыі. Зрэшты, чым ён займаўся падчас Грамадзянскай вайны — невядома.

У першай палове 1920-х гадоў сям'я вярнулася ў родны горад, які знаходзіўся ў складзе Польшчы. Ужо ўвосень 1922 года Мікалай працаваў на вайскова-гаспадарчым прадпрыемстве па харчовым забеспячэнні III Вайсковай акругі ў вёсцы Ласосна пад Гродна. У 1929-м ён ажаніўся з Надзеяй Белаблоцкай, якая паходзіла з мясцовай заможнай інтэлігенцыі. Тады ж Місюк уладкаваўся чыноўнікам у гарадскі магістрат. Пэўны час ён — адміністратар нерухомасці Прэабражэнскіх, якія трымалі ў Гродна некалькі немалых дамоў: фактычна, эканом альбо ўпраўляючы.

Ад 1933 года Мікалай Місюк займаў пасаду секвестатара. Хто гэта? Чыноўнік, які займаўся зборам падаткаў і запазычанасцяў. Сённяшнімі словамі — судовы выканаўца. Каб разумець, як ставіліся да секвестатараў у міжваеннай Заходняй Беларусі, дастаткова пачытаць Янку Брыля, які інакш як «абдзірачамі» прадстаўнікоў гэтай прафесіі не называў. Да секвестатараў мясцовыя ставіліся прыкладна гэтак жа, як да паліцыі ці солтысаў. Напрыклад, са збіцця сялянамі секвестатараў пачалося Навасёлкаўскае паўстанне на Кобрыншчыне ў 1933 годзе, патопленае ўладамі ў крыві.

Нейкі час Місюк таксама займаў пасаду рэферэнта крымінальна-адміністратыўнага Рэферата Адміністратыўнага аддзелу пры Гродзенскім старостве. З гэтай працы ў сямейным архіве зберагласся нават візітоўка і кабінетная шыльдачка: іх ніхто не выкідаў!

### Службовец нямецкай управы і савецкі чыноўнік

Надышоў 1939 год, у горадзе ўладу ўзялі так званыя «Першыя Саветы». Прыйшла «чорная гадзіна» не толькі для польскіх вайскоўцаў. У лясах пад Гродна расстрэльвалі нават скаўтаў з манашкамі, інтэлігенцыю ды чыноўнікаў масава высылалі ў Сібір, не кажучы ўжо пра «нявісных працоўнаму народу» секвестатараў. Але сям'ю Місюкоў рэпрэсіі абмінулі. Больш за тое, Мікалай надалей працягваў працаваць чыноўнікам — у гродзенскім Гаркамунгасе. Зрэшты, Саветы затрымаліся ў горадзе ненадоўга...

А што пры немцах? Мікалай Місюк з 1941 па 1944 гады зноў працаваў чыноўнікам — ужо ў створанай акупацыйнымі ўладамі гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno). На лістапад 1941-га ён — кантралёр гандлёва-прамысловай палаты.



Мікалай Місюк, 1926 год



Секвестатар, 1930-я



Выкладчык у семінарыі, 1950-я

Цікава, што сям'я пасля вяртання Саветаў у 1944-м надалей захоўвала нямецкія дакументы і працоўныя даведкі. Няўжо не баяліся чарговай хвалі рэпрэсій?...

Са жніўня 1944 па 1946 год Мікалай Місюк — зноў савецкі чыноўнік. Працаваў у Гродзенскім абласным фінансавым аддзеле Упраўлення падаткаў і збораў Наркамата фінансаў БССР. Спачатку ён — інспектар гарадскіх падаткаў, пазней — старшы інспектар, і ўрэшце — старшы рэвізор па падатках. За гэты перыяд ён шматкроць атрымліваў падзякі, граматы і грашовыя прэміі за выкананне плану па падатках.

Цікава, што ў архіве Місюка захаваліся рукапісныя нататкі пра спагнанне падатку са



Сяргей Белаблоцкі і Мікалай Місюк (справа), даваеннае фота

служыцеляў культу: ксяндза Альшанскага з Жалудку ды ксяндза Казіміра Арлоўскага з Адамавічаў (тады Сапоцкінскі, а сёння Гродзенскі раён). Дарэчы, першага з іх — Арлоўскага — у 1950-м рэпрэсавалі, ён адседзеў пяць гадоў у лагеры. На той момант падатковы ціск лічыўся адной з «мяккіх» формаў барацьбы з рэлігіяй і яе служыцелямі.

Але самае цікавае нават не гэта. Калі зірнем у працоўную кніжку Мікалая Філіпавіча, мы ўбачым, што агульнага стажу на 1944 год у яго 26 гадоў. З іх «24 пацверджана дакументамі, 2 з ягоных словаў». Што атрымліваецца? Савецкая ўлада залічыла ўсе месцы працы, дзе Місюк быў з 1918 па 1944-ы... А гэта і служба пры Польшчы (секвестатар, рэферэнт карна-адміністратыўнага аддзелу), і служба ў нямецкай Управе! Неймаверна? Факт. Альбо на ўвазе маецца зусім іншая служба, пра якую ўзгадваць не прынята?..

### «...Вучэнне аб несмяротнасці душы»

І тут — цікавы паварот. Ад апошняй пасады (гэта месца бухгалтара на чыгунцы, дзе Мікалай Філіпавіч прапрацаваў зусім нядоўга), ён вызвалены «ў сувязі з сыходам у Духоўную акадэмію г. Ленінград» — так значыцца ў працоўнай кніжцы. Так, у 1948-м наш герой паступіў у Ленінградскую праваслаўную духоўную акадэмію. Пачаўся новы перыяд яго жыцця, які, зрэшты, мог быць лагічным працягам папярэдніх.

23 чэрвеня 1953 года Місюку было прысвоенае званне кандыдата багаслоўя І разраду (дысертацыя на тэму «Хрысціянскае вучэнне аб несмяротнасці душы»). Пасля абароны дысертацыі ён — прафесарскі стыпендыят пры Кафедры Дагматычнага багаслоўя, а пад канец года атрымаў дыплом аб сканчэнні ЛДА №7.

У 1953-м Місюк зноўку вярнуўся на радзіму: гэтым разам ужо выкладчыкам Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Больш за тое, ён — сакратар праўлення МДС! Фактычна, ён быў першым выкладчыкам семінарыі ў Жыровічах, які атрымаў адукацыю ў адроджанай пасля вайны Ленінградскай духоўнай акадэміі. На гэтай пасадзе Мікалай Філіпавіч Місюк прабыў да 1959 года. Апошнія экзамены ён прымаў ужо немаладым і цяжка хворым (здаецца, меў рак), а з кабінету ў кабінет яго пад рукі вадзілі семінарысты.

### Педант

Цікава зірнуць на ўспаміны пра нашага героя з вуснаў тагачаснага студэнта, а пазней пратаерэя і прафесара МДС Віталя Антоніка:

«...Мікалай Філіпавіч выкладаў Канстытуцыю СССР (быў такі прадмет), гісторыю расколу (і такое было!), гісторыю Рускай Праваслаўнай Царквы... Выкладчыкаў такога тыпу раней называлі педантамі. Матэрыял ён выкладаў літаральна па тэксце падручніка, як кажуць, без запінкі. Ад нас патрабаваў падрабязных адказаў. Мы заўжды здзіўляліся яго прыўкраснай памяці і начотніцтву. Толькі з часам мы зразумелі, што такая манера выкладання мела свае прычыны: запужаны слежкай і наглядам з боку ўладаў, Мікалай Філіпавіч строга трымаўся тэксту падручніка, ні на ёту не адступаў ад яго».

У 1959-м Мікалай Місюк, атэставаўшы ўсіх студэнтаў, паехаў паміраць у Гродна. Там ён быў пахаваны на Старых праваслаўных могілках на вуліцы Антонава. Ягоны дом па вуліцы Рэйманта, 13 стаіць дагэтуль. Па падручніку аўтарства Місюка ў Жыровіцкай семінарыі вучацца і зараз: «Православное нравственное богословие для 2-го курса Минской духовной семинарии. Основные понятия нравственного богословия» / Н. Ф. Мисюк. — Жировичи, 2008. — 88 с.

### Замест эпілогу

Падобны лёс для савецкага часу можна лічыць унікальным. Ані наш герой, ані чальцы ягонай сям'і так і не трапілі пад рэпрэсіі: ні ў 1939–1941-м, ні пасля 1944 года. Ці маглі адпаведныя органы не ведаць пра пасады Мікалая Місюка ў даваеннай Польшчы ды нямецкай управе ў часы вайны? У рэаліях, калі правяралі і пераправяралі кожнага, а ў Сібір можна было паехаць адно за тое, што перавозіў немцаў на пароме праз Нёман, — наўрад ці. Пры гэтым у сваім архіве Мікалай Філіпавіч захаваў поўны камплект дакументаў за ўсе часы!

Што ж атрымліваецца? Варыянт першы: нашаму герою неймаверна шчасціла праз усё жыццё, а яго педантычнасць і службовыя навыкі цаніла кожная наступная ўлада. Наўрад ці пры гэтым ён сам меў сантыменты хоць да адной з іх — палякаў, немцаў, саветаў... У рэаліях бурлівага XX стагоддзя ўсё гэта ўспрымалася як часовае, амаль каляндарныя, з'явы.

Варыянт другі: на нейкім этапе, магчыма, яшчэ ў часы Грамадзянскай вайны, магчыма пазней, Місюк пайшоў на супрацу з савецкімі органамі. Там, вядома, таксама цанілі педантычнасць і службовыя навыкі... Тады ўсё ўстае на свае месцы: у новастворанных падкантрольных уладзе царкоўных інстытутах вельмі патрэбныя былі свае людзі. Так Мікалай Філіпавіч і трапіў спачатку ў духоўную акадэмію, пасля — у Жыровіцкую семінарыю. І момант з залічаным працоўным стажам таксама ўпісваецца ў гэтую тэорыю.

Як і ў выпадку з фантастычнай кар'ерай Аўгусціна Судаплатава, мы не можам нічога сцвярджаць адназначна. Архівы закрытыя: ёсць адно здагадкі ды ўскосныя сведчанні. Хай гэты матэрыял будзе яшчэ адным пытальнікам у капілку найноўшай гісторыі Праваслаўнай Царквы ды яшчэ адным паўсцёртым партрэтам на абліччы старога Гродна.

**Фота з архіву сям'і Місюкоў (зараз у прыватнай калекцыі)**








# У пошуках рэнамэ,

## альбо Яшчэ адзін ліст да Зянона

**« Заканчэнне. Пачатак у № 36–37**

**Падарожнае эсэ**

Славамір АДАМОВІЧ

### Начная лазня і касцельны фэст у Жодзішках

Гаспадар аграсядзібы «Вялес» быў на месцы, калі я на самым змярканні, гадзіне а 10-й вечара, пастукаў у браму. На двары завіхалася ладная купа народу — гэта чарговая група турыстаў вярнулася з двухдзённага байдарачнага сплаву па Вяллі і цяпер вячэрала. Алег Мізула адклаў гітару, пад струнны перабор якой спяваў сваю аўтарскую песню, адчыніў весніцы, і мы ад душы прывіталіся.

Гаспадаровых гасцей чакала не толькі сытная вячэра, якую рыхтуе Алегава гаспадыня, але і традыцыйная, выштукаваная самім Алегам, лазня. Пасля парыльні мы, самыя старэйшыя ў групе адпачывальнікаў, прыслухоўваліся да размоваў маладзейшых. Прынамсі адзін з іх, малады чалавек гадоў 25-ці, гасцяваў у Беларусі, прыехаўшы аж з Нью-Ёрку, і натхнёна дзяліўся вопытам работы ў сферы інтэрнэт-тэхналогій і тэхнікай маніпуляцыяў з акцыямі. Гаварылі мы ўсе так натхнёна, што, збоку слухаўшы, нас можна было палічыць за як найменей банкаўскіх топ-менаджараў ці біржавых маклераў. Пасля напружанага дня і лазні я хутка заснуў у гаспадаровай пасцелі. Пад раніцу сніліся біржавыя курсы акцыяў, падзенне расійскай фондавай і поспехі беларускай таварнай.

На другі дзень Алег са сваімі гасцямі зноў збіраліся ў вандроўку, улаштоўваючы і зносячы на бераг рэчкі прасохлыя за ноч байдаркі. Я падзякаваў гаспадару за начлег, а гаспадыні — за сняданак, ды вырушыў з двара.

Была сонечная нядзеля 29 жніўня, у Жодзішках праходзіў традыцыйны каталіцкі фэст, і я, раздобрыўшыся, купіў сабе ў дарогу цукровага пеўніка-смактуна. І хоць смак ужо быў не той, што ў дзяцінстве, але глюкоза і вада — гэта якраз тое, што патрэбна раварысту падчас напружанай педальнай работы на шляху да мэты.

### Зноў Смаргонь і памяць пра Першую сусветную вайну

Літаральна праз двое сутак я зноў уехаў у Смаргонь, але гэтым разам ужо на ровары і па дарозе Р95, якая ідзе на Свір і мястэчка Камарова, дзе я вучыўся ў колішнім СПТВ-17 у далёкія ўжо 1977–1979 гады. Калі рухацца па гэтай трасе з паўночнага захаду нашага краю, дык з правага боку на ўездзе вас сустрэне новая прыватная крама, а за ёю вы ўбачыце самае сапраўднае мадэрновае капішча — скульптурныя кампазіцыі і сем вялікіх валуноў вакол іх з бронзавымі медальёнамі-тэкстамі пра падзеі Першай сусветнай вайны, якія адбываліся на Смаргоншчыне. Тэксты выкананыя, на жаль, па-руску. Кажуць, што грошы на будаўніцтва паступалі з бюджэту так званай «Саюзнай дзяржавы РФ—РБ».

Калі я праехаў праз Смаргонь, зноў вырuліў на трасу Р95 і паімчаў далей у накірунку Крэва. Як і папярэджваў мяне гаспадар аграсядзібы «Вялес» бард Алег Мізула, за Смаргонню пачаліся беларускія горы, ехаць па якіх было хутчэй задаваленнем, чым нейкай праблемай. Я натхнёна круціў педалі, перыядычна рабіў з'езды да цікавых мне гістарычных і архітэктурных помнікаў, спыняўся і заходзіў на прыдарожныя могілкі, глядзеў і проста ўсёй сваёй істотай убіраў, усмоктваў у сябе пейзажы нашай старой і адначасна мадэрнай, новай Літвы—Беларусі.

### Крэва—Гальшаны—Трабы

Пад сценамі нарэшце абгароджанага ад разявакаў і ледзь не да рэшты разбуранага Крэўскага замку я спаткаў маладую жанчыну, якая прадавала свае вырабы з керамікі. Разгаварыліся. Аказалася, што яе чалавек — мастак Сяргей Бандарэнка — на ўласным двары ў недалёкай ад Крэва вёсцы Чухны будуе копію Крэўскага замку. Неўзабаве падышоў і сам гаспадар, сямейная пара запрасіла мяне спыніцца на начлег каля іх без перабольшання цікавага турыстычнага аб'екту, але нешта мне перашкодзіла, і я з паўдарогі вярнуўся на магістраль Р95 ды паехаў далей, на Гальшаны.

Начаваў у намёце каля жылога хутара пад вёскай Лужышчы. У двары доўга брахаў сабака, чуючы чужога, але нарэшце і ён заціх, а я яшчэ доўга варочаўся на спальніку, прыслухоўваючыся да зумкання камароў па той бок непранікальнага сінтэтычнага палатна ды рэдкіх гукаў аўтамабільных матораў на блізкай шашы.

У панядзелак 30-га мне трэба было паднапружыцца, каб нарэшце дабрацца да Суботнікаў. Не даязджаючы да Гальшанаў, прыпыніўся каля прыдарожнага археалагічнага раскопу на месцы сярэднявечнага гарадзішча, пра што сведчыў прыдарожны знак. Пад самымі Гальшанамі station назіраў, як сіласарэзка збівае на зялёнку счаўрэлы ад чырвенскай засухі ячмень. У мястэчку кабеты, што выходзілі з касцёлу, раптам неяк надта ж прыязна загаварылі да мяне, устаўляючы польскія «выразы». Ці то мой загарэлы і досыць мускулісты голы торс падзейнічаў, ці то бел-чырвона-белы сцяжок забытаў, але ў любым выпадку іх прыязнасць мяне ўзлавала, бо я скурай сваёй адчуваў, што мясцовыя бабы палічылі мяне за паляка. Адзін са святароў таксама загаварыў да мяне, прытым па-нашаму. Калі ж я памкнуўся быў прайсці з тым самым голым торсам бліжэй да аўтара, мне дарогу заступіў іншы святар, які гаварыў ужо па-польску, што зноў мяне ўз'юшыла, і я паспяшаўся з храму — як той казаў, далей ад граху і ад гэтых служкаў.

Вялікія Гальшанскія могілкі даглядае ордэн францішканаў: абкошваюць траву, высякаюць кустоўе і падпраўляюць магілы. На пошукі беларускіх надгробкаў часу губляць не стаў. Наперадзе — Трабы.

На ўездзе ў гэтае старажытнае мястэчка мяне і цяжкую фуру перада мной сустракала сытая пярэстая чорна-белая карова з доўгім вераўчаным повадам на шыі, які дазваляў ёй свабодна пераходзіць аўтатрасу Р48 туды і назад. Спачатку я абурыўся факту такога адвольнага трактавання свабоды і дэмакратыі, але праз хвіліну знайшоў у ім і пазітыўны момант, што паддало мне настрою на рэшту дарогі да Суботнікаў. Папросту ў гэтай прыдарожнай карове я ўбачыў той самы прыхаваны тутэйшы супраціў сталічнай мінскай уладзе і яе парадкам, прытым супраціў з выклікам, з элементам анархіі: мауляў, як хацеў, так і навязаў, бо той карове я гаспадар. Што тут скажаш, ліцьвіна-летувіскае памежжа — яно такое. Тут мы будзем урастаць у наш падзол да апошняга атожылка...

Я даехаў да цэнтру мястэчка ды паназіраў за мясцовымі. Адна пухнаценькая кабета ішла на парфумную фабрычку і на хаду распавядала, як даехаць да Суботнікаў. Апаўдні ў яе пачыналася рабочая змена, ёй трэба было спяшацца, але ж хіба не прыемна было, што да яе загаворваў нетутэйшы мужчына.

Маладую незамужнюю кабетку чакала праца, а мяне — апошні этап маёй вандроўкі, і адразу за касцёлам Раства найсвяцейшай панны Марыі я павярнуў управа з трасы Р48 на вуліцу Зарэчную. На выездзе прыпыніўся каля вельмі старых могілак, якія, аднак, дагледаліся хоць бы тым парадкам, што на іх высякаліся кусты і старыя дрэвы.

За Трабамі асфальт скончыўся і пачалася гравейка — самы складаны кавалак маршруту.

### Раманы—Жамыслаўль—Суботнікі

З Трабаў да Жамыслаўля дабіраўся гадзіны дзве ці крыху больш. Сонца пякло, сустрэчныя і спадарожныя машыны падымалі пыл, але гэта ніяк не магло мне збіць настрой, бо ехаў я дарогамі сваёй Радзімы, пра якую мы там, у сталіцах, іншы раз так залішне і ўхаластую гаворым.

Праехаў быў каля самай памежнай заставы з радыёлакацыйнымі ўстаноўкамі, якія беспярапынна сканавалі заходні гарызонт як па вертыкалі, так і па гарызанталі. У Раманах спыніўся быў, каб набраць вады і папытацца дарогі. Адзіны мужычок, якога я ўбачыў на хатнім двары паміраючай вёскі, аказаўся вашым выбарнікам, Зянон Станіслававіч. Генам яго зваць. Казаў, каб зараз вы зноў ішлі на прэзідэнта, дык ён зноў за вас галасаваў бы. А на тых выбарах, кажа, ягоны брат «надзіраціцлям» быў, «дык калі гэты во апанаваў, то брата адразу з работы і папёрлі». Так што вось, паважаны Зянон Станіслававіч, нішто не забытае на вашай малой радзіме, і мужычкі памятаюць.

**Працяг на стар. 12 »**

« Працяг.
Пачатак на стар. 11





Перад мостам праз Гаўю я спешыўся, каб асвяжыцца ў апетай паэтамі беларускай рацэ. Тут таксама напаткаў тутэйшых мужчынаў майго веку, якія сядзелі на высокім беразе, зводдаль ад ракі, і нешта абмяркоўвалі. Папытаўся ў іх, дзе тут лацвей акунуцца. Разгаварыліся, дык я ім: а ці ведаеце, што скора Пазьняк прыязджае?..

Не заўважыў, каб гэтая «навіна» іх асабліва ўзрушыла, хутчэй не. Але хто такі Зянон, ведалі і яны. Часу ж на глыбейшыя роспыты і размовы выдаткоўваць не хацелася — хуткаплынная Гаўя чакала, каб прыняць у свае абдымкі, і я, паскідаўшы з цела прапацелыя баваўняныя лохмы, аддаўся рачной глыбіні.

Адразу за мостам пачыналася мястэчка Жамыслаўль, нейкае раскіданае і недагледжанае, як мне ўбачылася. Акурат каля прадуктовай крамкі класічнага выгляду таўстуха прадавала гародніну. Я прысеў на лаву аўтобуснага прыпынку і расклаўся, каб перакусіць. На скрыжаванні вуліцаў з'явілася аўто памежнікаў, якія пільнаваліся нейкага свайго задання. Заўважыўшы прышлага, пачалі дэманстратыўна рысавацца хлапчукі на роварах, падцягнуліся дзяўчаты-падлеткі. І ўсе яны перакідваліся паміж сабою рэплікамі па-нашаму, амаль на літаратурнай беларускай. Прынамсі акцэнт гучаў такі, што я адчуў сябе як найменей Зігфрыдам з оперы Вагнера «Гібель багоў», Зігфрыдам, які вандруе па Рэйне-Гаўі... І мне далей падумалася, што і раскіданасць мястэчка, і недагледжанасць — справа дзясятая і папраўная, калі ёсць тыя, хто можа ТУТ і па-нашаму.

Пакідаючы Жамыслаўль, зноў зрабіў сэлфі каля памятнага знаку навуковай фундацыі Умястоўскіх, якая дзейнічала пры Віленскім універсітэце за часамі польскай адміністрацыі на нашых заходнік беларускіх землях. Абодва каменныя слупы, адзін з якіх стаіць у пачатку вёскі, а другі на выездзе, перажылі і апошнюю вайну, і камуністычны СССР і няблага захаваліся. У мяне, Станіслававіч, такое адчуванне, што яны чакаюць вашага вяртання ці прынамсі прыезду на госці...

**Як ні павярніся і куды ні глянь, а пытанне з прыездам давядзецца вырашаць, Зянон Станіслававіч. З палітычнага пытання аб'ектыўна вымушанага ад'езду ў 1990-х яно стала пытаннем вашага асабістага рэнамэ**

Па вуліцы Школьнай я выехаў з мястэчка, дзіцячыя галасы якога нагадалі мне цудоўную музыку Рыхарда Вагнера, і праз кіламетры два язды зрабіў левы паварот на Суботнікі. Пагода заставалася сухой і яснай, і пяць кіламетраў ад павароту я праляцеў хутка. Вось і ваша вёска, дзядзька Зянон, вашы Суботнікі! Я павольна кручу педалі па цэнтравой вуліцы Хомчыка і галавой — па баках. Добра паддаты мужычок, якому ў 94-м было крыху за 20, тэпаў насустрач. Д'ябэлак ува мне загадаў зачапіць мужычка з'едлівым словам. Але той быў у добрым настроі і ахвотна распачаў свой маналог. І праз хвіліну я ўжо ведаў, што ён жыве вось тут недалёка, на выбары ён ТАДЫ не хадзіў і тым больш не ходзіць цяпер, а хата Пазняка вунь там, каля самай рэчкі...

Аднак з першага разу знайсці мне яе не ўдалося. Пад сельсаветам да строгага выгляду жанчынкі азываюся сваім «дабрыдзень», атрымліваю ў адказ падкрэслена выразны «здравствуйте», і на гэтым наш «дыялог» заканчваецца. Там жа чапляю яшчэ аднаго прадстаўніка мужчынскага полу, і той упэўнена паказвае на «чацвёрты дом вот атсюда», удакладняючы, што цяпер у доме Пазняка жывуць другія людзі, бо ён яго прадаўшы. Не можа быць, думаю, што ён пляце... Толькі з чацвёртай спробы, ад мінчанкі, якая на лета прыязджае дагледаць бацькоўскі дом у Суботніках, дазнаюся нарэшце, як прайсці да вашай хаты.

І вось я на месцы, дзе народжаны быў наш Зянон. Роўны пляц, сотак 10–12 нядаўна абкошана; падсыхае, пяшчотна пахнучы дзяцінствам, трава; хлеў па дыяганалі, паміж хлявом і хатай — студня. Зводдаль садовыя дрэвы, яблыні, перад франтальнымі вокнамі, якія глядзяць на раку, растуць лістоўніца і клён. На сцяне хаты — абвесткі для такіх, як я, вандроўнікаў, а таксама шыльда, што тут нарадзіўся наш «палітычны дзеяч, змагар за вольную і незалежную Беларусь».

Агледзеўшы панадворак, іду і знаёмлюся з дзедам Францам Балдоўскім, які па-суседску даглядае хату. Дзеду за 80, але ў размове пра палітыку ён выказвае зайздросную энергічнасць і не цураецца таго самага крэпкага слоўца, якога мы часцяком пазычаем у нашага ўсходняга суседа з-за Смаленску і Пскова. Пры канцы размовы ў яго праскочыла прыкрае для мяне як беларускага нацыяналіста прызнанне, што «мы ж тут лічымся палякі». Так што, як ні павярніся і куды ні глянь, а пытанне з прыездам давядзецца вырашаць, Зянон Станіслававіч. Гады прамінаюць, і з палітычнага пытання аб'ектыўна вымушанага ад'езду ў 1990-х яно цяпер стала пытаннем вашага асабістага рэнамэ, з аднаўленнем якога з'яўляецца надзея на аднаўленне грамадска-палітычнага рэнамэ і ўсяго Беларускага Народу. Толькі пасля гэтага кроку мы зможам гаварыць пра нараджэнне ў Еўропе яшчэ адной паўнавартаснай палітычнай Нацыі, галоўнай спадчынніцы ВКЛ.

**Фота аўтара**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №964

Падпісана да друку 19.10.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.